беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 36 (74)
9 сьнежня
1996 г.

выходзіць у панядзелкі



## 10 сьнежня — Дзень палітвязьняў

*Сёлета Беларусь адзначае гэты дзень па праву: у нашых турмах сядзяць удзельнікі мірных маніфэстацыяў, ёсьць нават паэт, зьняволены за свае вершы. Сёлета Беларусь стала адзінай краінай Эўропы, дзе ёсьць палітычныя ўцекачы і палітычныя вязьні. Таму Дзень палітвязьняў — гэта сапраўды наш дзень.*

З гэтай нагоды 10 сьнежня ў Менску перад беларускім Нацбанкам мусіць адбыцца пікет. Ініцыятары выбралі гэтае месца невыпадкова. Менавіта тут 30 траўня сёлета амон учыніў самы цынічны й жорсткі гвалт з усіх, што мелі месца гэтай вясною. Тады некалькі тысячаў грамадзянаў выйшлі на праспэкт Скарыны з патрабаваньнем свабоды для палітвязьняў: Славаміра Адамовіча, Андрэя Рамашэўскага і грамадзянаў Украіны.

Цяперашняя акцыя неспадзявана супала з адкрыцьцём рэстарацыі «McDonald's», што адбудзецца недалёк ад Нацбанку. Чакаецца прыбыцьцё А.Лукашэнкі.

**С.К.**

*Больш падрабязна пра акцыю пратэсту — на старонцы 2.*




## Рука Масквы

*Роля і мэты Расеі ў беларускіх падзеях — пра гэта карэспандэнт «НН» Алег Дашкевіч запытаўся ва ўдзельнікаў і гасьцяў «Кангрэсу ў абарону Канстытуцыі і дэмакратыі», якія адбыліся на мінулым тыдні ў Менску.*

### Станіслаў Шушкевіч:

— Я ацэньваю ня ролю Масквы, а ролю канкрэтных дзяржаўных дзеячоў. Перш за ўсё ролю Строева, ролю Селязьнёва, і, на жаль, ролю Чарнамырдзіна. Што да Строева і Селязьнёва, то я ад іх іншага не чакаў. Адзін зацікаўлены ў рэклямаваньні камуністычных лёзунгаў, другі мае камэрцыйны інтарэс сваёй Арлоўскай вобласьці ў Беларусі па нафтапродажу. Што тычыцца Чарнамырдзіна, то я ўвесь час спадзяваўся, што ён памыліўся, але ня можа разумны чалавек так доўга быць у стане такой памылкі. Уся Эўропа тлумачыць яму, што адбылося, а ён па-ранейшаму кажа, што Лукашэнка меў права запытацца ў народа. Усім вядома, што рэфэрэндум меў дарадчы сэнс, тым ня менш Чарнамырдзін віншуе Лукашэнку зь перамогай, а той падпісвае антызаконную канстытуцыю. Засталася апошняя надзея, што прэзыдэнт Расеі выправіць гэтую памылку сваіх падначаленых.

### Валянцін Голубеў:

— Прадстаўнік Дзярждумы сп. Баравы тут сказаў, што Расея — гэта ня толькі «Газпрам», і параіў змагацца за сваю свабоду. Дык той, супраць каго трэба змагацца ў першую чаргу — гэта якраз «Газпрам». Менавіта праз Беларусь ідуць асноўныя нафта- і газаправоды, якія належаць «Газпраму», і расейскі бок павінен гэта ведаць і ўлічваць, калі ён дапамог прывесьці дыктатара да ўлады ў Беларусі.

### Анатоль Лябедзька:

— Расея дабілася ад міжнароднай супольнасьці прызнаньня таго, што Беларусь — гэта сфэра яе прыярытэтаў, г.зн. узяла на сябе поўную адказнасьць. На вялікі жаль, у самы крытычны для дзяржаўнасьці Беларусі момант афіцыйная Расея прадала ня толькі дэмакратычную частку Беларусі. Тая гульня, у якую гуляюць Крэмаль і Лукашэнка, бесперспэктыўная для Лукашэнкі. Масква з дапамо-

*Працяг на старонцы 2.*

## Акцыя без правакацыяў

*Сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі разагнанага Вярхоўнага Савету, якая адбылася ўчора ў Менску, спарадзіла два прэцэдэнты ў гісторыі дэмакратычнага супраціву рэжыму.*

Па-першае, людзі з пляца Незалежнасьці — каля пяці тысячаў чалавек — зрабілі марш праз увесь цэнтар сталіцы, пад час якога ўлады ні разу не пайшлі на гвалтоўныя правакацыі. Шлях шэсьця ляжаў цераз рэзыдэнцыю прэзыдэнта й расейскае пасольства, а завершыўся ля будынка тэлевізіі на Камуністычнай.

Улады пасьпелі выставіць моцны міліцэйскі кардон толькі калі дэманстранты падыйшлі да расейскага пасольства, у той час, як сядзіба прэзыдэнта пэўны час заставалася амаль без аховы. Па-другое, 8 сьнежня ўпершыню выразна прагучалі антырасейскія лёзунгі.

Самы моцны ўсплеск акцыя атрымала перад расейскім пасольствам, калі на працягу доўгага часу дэманстранты скандавалі «Расея, рукі прэч ад Беларусі!», «Чамадан-вакзал-Расея!» ды інш. Міліцыянты не дэманстравалі свае спэцсродкі і падкрэсьлена ня бралі ў рукі дубінкі. Ці азначае гэта, што пасьля акцыі не былі праведзеныя арышты, мы даведаемся сёньня. Па вялікім рахунку, такі паварот сустрэчы выбаршчыкаў з дэпутатамі для многіх стаўся неспадзяванкай.

**Севярын Квяткоўскі**

Міхаіл Маскаленка:

## «... бюлетэні пасыпаліся з-пад стала»

*Пра інцыдэнты, якія адбыліся з грамадзянамі Ўкраіны падчас мінулага рэфэрэндуму ў Менску і Берасьці карэспандэнт «НН» гутарыць з консулам пасольства Ўкраіны, кандыдатам юрыдычных навук Міхаілам Маскаленкам.*

**«НН»: Пад час правядзеньня выбараў і рэфэрэндуму былі выпадкі затрыманьня ў Беларусі грамадзянаў Украіны, зьвязаныя зь нейкімі ўлёткамі. Распавядзіце, калі ласка, што адбылося.**

М.М.: Напярэдадні рэфэрэндуму прыехала вялікая колькасьць міжнародных назіральнікаў з Украіны, прадстаўнікоў прэсы, тэлебачаньня. Што датычыцца назіральнікаў, то іх было каля трыццаці чалавек і яны прадстаўлялі розныя партыі, арганізацыі і грамадзкія рухі Ўкраіны — як афіцыйныя, так і неафіцыйныя. У цэлым, паводле нашых зьвестак, назіральнікі паводзілі сябе карэктна, інцыдэнтаў не было. За выключэньнем двух выпадкаў затрыманьня ў Менску і Берасьці за нібыта супрацьпраўныя дзеяньні. Напрыклад, 24 лістапада ў Менску былі затрыманыя грамадзяне Ўкраіны Пяркала і Марчанка. Паводле афіцыйнай інфармацыі, на станцыі мэтро «Акадэмія Навук» яны расклейвалі ўлёткі на вагонах мэтрапалітэну.

**«НН»: Якога зьместу былі тыя ўлёткі?**

*Працяг на старонцы 2.*



Славамір Адамовіч

## Вершы з-за кратаў

***

Канчаецца лета. Яблычны спас.
Пра Афрыку марацць птушкі.
Ах, як жа на волі прыгожа ў вас.
Ах, як жа за кратамі скрушна.

У вас там кажуць пра новы стыль
(«Прадай Радзіму» назвалі).
А мы тут гніём, як падвальная цьвіль,
як брудная пена хвалі.

У вас там нардэпы ідуць у бой
з «усенароднаабраным»,
а мы тут штодня становімся ў строй,
штодня залізваем раны.

Мы тут прырастаем грудзьмі да нар,
мы тут заціхаем дачасу,
а ноччу смакуем чыфірны ўзвар
усёй арыштанцкай расай.

На волі ў гародчыках астры і кмен,
нясьпелы агонь каліны,
а ў нас на прадоле нахабны мент
пагардліва цыркае сьлінай.

Яму дазволена, ён «круты»,
цяпер ён сіла і права,
а нам застаецца — грудзьмі на драты,
худым аблічам у гравій.

А нам застаецца нічога і ўсё —
турэмная вош і Радзіма,
і наша нянавісьць, зь якой мы расьцём
насустрач рэжыму.

*07.09.96*
*Віцебская цэнтраля, камэра 60.*

***

Ізноў кастрычнік. Час пасадкі дрэваў.
На саджанцах халодная раса дрыжыць,
а ты,
ты ўспамінаеш падарожжа ў Крэва,
значэньня стратэгічнага масты,
любімы шлягер, інтэрнат, свабоду,
турму, сабак, іржавыя драты,
супраціўленьне мужных, слабых згоду,
неадэкватнасьць зла і дабраты;
ты ўспамінаеш, як заходзіць сонца,
як на цэнтраль навальваецца змрок,
як з вымені каровінага ў донца
струменем б'е антысухотны сок.
Ах, памяць, памяць! Файная ўласьцівасьць,
яна табе ня дасьць асатанець,
яна сілкуе годнасьць і гідлівасьць
да усяго, што западло цярпець.
Ты ўспамінаеш, як цьвітуць вяргіні,
як лес шуміць, як асядае пыл
на жыта прыдарожнае, як гіне
блакітны чмель у белай конскай грыве,
як баба ў лазьні свой шаруе тыл;
ты ўспамінаеш, як шманалі «хату»,
як ты ня стаў з рукамі на сьцяну,
як дапамог твайму блатному «брату»
жывот ускрыць, прачнуўшыся ад сну.

*16.10.96*
*Віцебская цэнтраля, камэра 60.*

Сябры! Усім здароўя і ніякай інтэлігенцкай смаркатасьці. І так многа прачхалі.

**Славамір**

Адам Міхнік

## САВЕЦКІ АРОЛ

### або пра парадокс калхознага банапартызму

*Паэты ў вершах шмат пішуць пра арлоў, і заўсёды з пахвалою. У арла і пастава неапісальнае красы, і быстры позірк, і найцудоўны палёт. Арол ня лётае, як іншыя птахі, а ўзносіцца і лунае ў аблоках; апрача таго, ён глядзіць у сонца і гамоніць зь перунамі. А некаторыя нават яго сэрца абдароўваюць велікадушнасьцю. Калі, напрыклад, хочуць вершам апяяць паставога, то абавязкова параўнаюць яго з арлом.(...)*
*І цяпер я думаю пра арлоў так: арлы — гэта арлы, і ня больш. Драпежныя, яны маюць у сваё апраўданьне толькі тое, што сама прырода стварыла іх вылучна антывэгетарыянцамі. Яны моцныя, далекавокія, жвавыя і бязьлітасныя, таму зусім натуральна, што, убачыўшы іх, усё птушынае каралеўства сьпяшаецца схавацца. І дзеецца гэта не з захапленьня, як запэўніваюць паэты, а са страху.*

Міхаіл Салтыкоў-Шчадрын «Лялькі і людзі»

Дабрарусь — гэтым словам акрэсьліў сваё эмацыйнае стаўленьне да Беларусі Тадэвуш Канвіцкі ў прыгожым прызнаньні, зьмешчаным на бачынах «Календара і клепсыдры». Ён пісаў: «Беларусь, Беларусь. Чаму ты называесься Беларусьсю, калі ня маеш у сабе белі, калі бель твая — рудыя восеньскія ржышчы, калі бель твая — паставы шэрага палатна, павыкладаныя на сонцы, калі бель твая — гарачы пот змучаных людзей. Ты павінна называцца Дабрарусьсю, павінна называцца Добрай Зямлёю Добрых Людзей. (...) Беларусь, не запала ты ў людзкую памяць. Не забірала ў іншых свабоды, не рабавала чужое зямлі, не забівала людзей з-за суседзкае мяжы. Гасьцінна, з пашанаю сустракала чужых, мела для рабаўнікоў апошнюю карову і апошнюю лустачку жытняга хлеба са знакам крыжа, мела для нешчасьлівых крываточнае сэрца і беднае, няпешчанае жыцьцё. Таму мала хто памятае цябе. (...) Беларусь, шэразялёная Беларусь зь вялізным небам над ільняной галавою, задужа добрая, лагодная, дабрародная ты на нашыя часы».

Няхай жа дазволена мне будзе падпісацца пад словамі вялікага польскага пісьменьніка.

Беларусы — добры, вельмі нешчасьлівы народ. Гэта народ безь дзяржаўнай і дэмакратычнай традыцыяў. Беларускі народ ніколі не ўціскаў іншых народаў, а яго груба русіфікавалі за царызмам і савецкім парадкам, яго жорстка перасьледавалі нацысты. Таму можа ўражваць і імпанаваць тое, што за такі кароткі час і ў такіх неспрыяльных умовах паўстала дэмакратычная апазыцыя, якая мужна чыніць супраціў дыктатарскім прэтэнзіям Лукашэнкі. Словы найвышэйшага прызнаньня і салідарнасьці належацца ад палякаў людзям беларускае апазыцыі.

*Сёньня ў «НН» мы друкуем эсэ вядомага польскага палітоляга, рэдактара «Gazety Wyborczej» Адама Міхніка, які зрабіў сваю спробу прааналізаваць фэномэн прэзыдэнта Лукашэнкі. Некалі ў інтэрвію Міхніку навасьпечаны прэзыдэнт прызнаўся, што ён —савецкі беларус. «Савецкі арол», — удакладняе Міхнік у сёньняшнім эсэ, працяг якога друкуецца на старонцы 3.*

Адам Міхнік

# САВЕЦКІ АРОЛ

## або пра парадоксы калхознага банапартызму

Працяг са старонкі 1.

Выкрываньне беларускага прэзыдэнта, бадай, ня мае сэнсу. Цяжка выкрыць дыктатара, які штодня надзвычай дзейсна выкрывае сам сябе. Аднак гэты савецкі арол заслугоўвае на сур'ёзную рэфлексію. Беларускі варыянт посткамуністычнай рэвалюцыі зьдзіўляе назіральнікаў. Ён парушае ўсе дагэтулешнія ўяўленьні пра пагрозу для дэмакратыі ў пару посткамунізму. Якімі былі тыя ўяўленьні?

Мы меркавалі, што дэмакратыі пагражае – узброеная ці паўзучая – контаррэвалюцыя камуністычнай намэнклятуры і паўторны дыктат камуністычнай партыі. Тым часам Лукашэнка выйграў прэзыдэнцкія выбары ў камуністычнай намэнклятуры, а камуністычная партыя знаходзіцца сёньня ў апазыцыі да ягонай дыктатарскай палітыкі.

Мы меркавалі, што дэмакратыі пагражае этнічная неталеранцыя і нацыяналізм як ідэалёгія новых уладных элітаў. Тым часам Лукашэнка жарліва атакуе беларускі нацыяналізм, нават больш –пагарджае беларускай нацыянальнай традыцыяй і беларускай моваю.

Мы меркавалі, што дэмакратыі пагражае радыкальны, «пячорны» антыкамунізм, які, выкарыстоўваючы палітыку рэваншу і дыскрымінацыі людзей старога рэжыму, зьнявечыць асновы дзяржавы права. Тым часам Лукашэнка вельмі далёкі ад думак пра дэкамунізацыю і люстрацыю.

Мы меркавалі, што дэмакратыі пагражае пранікненьне маскоўскай агентуры, якая можа падпарадкаваць свайму ўплыву палітычнае жыцьцё. Тым часам Лукашэнка, найбольш прамаскоўскі на сьвеце, стаў своеасаблівым ультра ў прамаскоўскасьці: ён больш прамаскоўскі, чымся Ельцын і Чарнамырдзін. Што за парадокс –з Масквы ідуць у Менск заклікі да стрыманасьці, разважлівасьці і кампрамісу.

Мы меркавалі, што дэмакратыі пагражае рэзкі супраціў сьвету палітыцы «шокавай тэрапіі», то бок шпаркага тэмпу рынкавых пераўтварэньняў. Тым часам у Беларусі не было ніякай «шокавай тэрапіі».

Скуль усё-ткі Лукашэнкава сіла? Чаму ён выйграе чарговыя плебісцыты, якія пракладаюць яму дарогу да калхознага банапартызму пры згодзе бальшыні? Чаму бальшыня галасуе за прымітыўнага дэмагога, які стаў аб'ектам кпінаў усяго сьвету?

Відавочна, здабытая свабода нараджае найперш вялікія надзеі, а пасьля вялікія расчараваньні. Калі выяўляецца, што дэмакратыя ня толькі не прыносіць лекаў ад усяго болю сьвету, але прыносіць узрушэньні, беспрацоўе, беднасьць і страх перад заўтрашнім днём, зьяўляецца настальгія па «старых добрых часах». У краінах з багатай дзяржаўнай традыцыяй адраджаюцца перадтаталітарныя парадкі, добрыя і нядобрыя. Беларуская традыцыя была слабая. Беларускае вяртаньне ў мінуўшчыну павінна было азначаць вяртаньне ў савецкія часы, да савецкай Беларусі.

Паляка гэта дзівіць. Беларускім прэзыдэнтам стаў палітык, які дамагаўся, каб гербам краіны зноў быў савецкі сымбаль; палітык, які публічна заяўляў, што на беларускай мове нельга выкладаць у вышэйшых навучальнях; палітык, які вярнуў расейскай мове, то бок мове акупанта, статус дзяржаўнай. І ўсяго гэтага ён дасягнуў, маючы падтрымку бальшыні суграмадзянаў.

«Як гэта магчыма?» — задумляецца паляк. Вось жа, гэта магчыма. Ва ўшчэнт зрусіфікаванай і ссаветызаванай краіне абарона расейскай мовы не азначае дагодлівасьці перад Масквою, а грэбаваньне шматгадовымі людзкімі навыкамі можа прывесьці палітыкаў да іхняй палітычнай самаізаляцыі. Гэтае грамадзтва не было падрыхтаванае да парлямэнцкай дэмакратыі і рынкавай эканомікі, шмат грамадзянаў Беларусі ня ведалі беларускай мовы, бальшыня не ўяўляла сабе Беларусі без Расеі –Старэйшага Брата.

У пасьпешлівай і прымусовай дэрусіфікацыі, якой спадарожылі беднасьць, бесталкоўшчына і карупцыя, бальшыня ўгледзела пагрозу для сваёй бясьпекі. І тая бальшыня аддала свае галасы за палітыка з харызмаю, які ўмела зьвярнуўся да калектыўных эмоцыяў і страхаў, абяцаючы простыя рэцэпты разьвязваньня цяжкіх праблемаў. Лукашэнка абяцаў, што ўтаймуе зладзейства і памножыць багацьце. Як жа ў такім разе не аддаць голасу за гэтага чалавека ніадкуль, такога простага і справядлівага?

Лукашэнка мае інстынкт спрытнага палітычнага дэмагога: патрапляе назваць ворага. Гэты вораг — скарумпаваная палітычная сыстэма, што не дае людзям жыць. Морыць іх голадам і абкрадае. Толькі ён, кандыдат звычайных людзей, стоячы па-над партыямі і падзеламі, не заплямлены балотам палітычных інтрыгаў і таргоў, зможа зразумець, адчуць і выказаць патрэбы народу. Толькі ён ведае, што гэты народ, пакорлівы перад лёсам і паслухмяны пры кожнай уладзе, патрабуе Правадыра, Бацьку і Настаўніка, які збудуе харытатыўную дзяржаву дабрабыту і парадку. Толькі ён ведае, што народ ня хоча ніякіх палітычных «партыяў-карлікаў». Таму ён і стварыў так званую вэртыкаль, уласную тэрытарыяльную адміністрацыю, забясьпечаную на ўзор напалеонаўскіх прэфэктураў усімі кампэтэнцыямі. «Вэртыкаль» залежная толькі ад яго, Аляксандра Лукашэнкі. Ці ж не вырывае ён такім чынам зубоў у старой скарумпаванай намэнклятуры і ў паразытычнай новай палітычнай клясы? Ці ж не вядзе ён штодня дыялёгу з народам па-над галовамі маральна збанкрутавалых элітаў? Ці ня ён першы зразумеў, што грамадзтва, якое ня ведае беларускай мовы, нельга сілаю прымусіць да яе за кароткі час? Ці ня ён зможа давесьці, што толькі ён адзін насамрэч разумее народ? Ці ж не такі сэнс мае рэфэрэндум, на якім народ абдароўвае яго сапраўды імпэратарскай уладаю?

Лукашэнка не належыць да нейкай мафіі ці групоўкі, ня мае сваёй палітычнай партыі. Ён сам – мафія і групоўка. Тым акурат і адрозьніваецца калхозны банапартызм ад банальнага посткамунізму. Лукашэнка мае супраць сябе цэлы блёк палітычных партыяў: посткамуністычных і антыкамуністычных. Увага! Гэта азначае, што гістарычны падзел на посткамуністаў і пост-антыкамуністаў, хаця й рэальна існуе, перастаў быць у Беларусі падзелам найвышэйшага парадку. Не найвышэйшы таксама падзел на прыхільнікаў і праціўнікаў прарасейскай палітыкі, бо пераважная бальшыня беларускіх палітыкаў выказваецца за цесныя сувязі з Расеяй. Які ж тады прадмет беларускай спрэчкі?

Нялёгка прадставіць ідэйны партрэт Лукашэнкі, бо палітычная неакрэсьленасьць і рыторыка дэмагагічных абяцаньняў робяць зь яго тыповага прадстаўніка папулізму. Аднак папулізм посткамуністычнай эпохі мае асаблівыя рысы, якія адрозьніваюць яго ад папулізмаў іншых эпохаў. Цяперашні папулізм узьнік на руінах таталітарнай сыстэмы, у якой чалавек, сам усякай уласнасьці пазбаўлены, быў уласнасьцю дзяржавы. Гэты папулізм ёсьць палітычнай практыкаю людзей, якія, не давяраючы прыватнай уласнасьці, хочуць мець ува ўласнасьці ўсю дзяржаву. На месца старой бальшавіцкай намэнклятуры прыйшоў Лукашэнка і яго «вэртыкальны» апарат.

Іхняя сіла – не ў мабілізацыі масаў, як у клясычным папулізме, а ў дэпалітызаванасьці і апатыі людзей, у падатлівасьці народу на прапагандысцкую ману і ў яго страху перад уладаю. Іхняя сіла – у слабасьці кволых дэмакратычных інстытутаў і палітычных партыяў.

Беларускія дэмакраты маюць рацыю, калі вінавацяць Лукашэнку ў імкненьні да дыктатуры, у парушэньні канстытуцыі, у таптаньні законаў. Але і ён мае рацыю, гаворачы пра іхнія «партыі-карлікі».



Папулізм пасьля камунізму мае розныя абліччы. Мае аблічча этнічнай ксэнафобіі, якое выступае рэакцыяй на шматгадовы нацыянальны ўціск або на крызыс шматэтнічнай дзяржавы. Мае аблічча рэлігійнай неталеранцыі – гэта рэакцыя на гады прымусовай атэізацыі. Мае аблічча сацыяльнай дэмагогіі, як рэакцыю на палітыку фарсаваных рэформаў, рост сацыяльнай няроўнасьці і беспрацоўя. Паходжаньне Лукашэнкавага папулізму іншае: яго нарадзілі ня цьвёрдыя рэформы, а адмаўленьне ад іх; сытуацыя, у якой страх першых камандаў перад зьменамі і сацыяльнымі канфліктамі блякуе рэформы, тады надыходзіць стагнацыя, за ёй – бясьсільная фрустрацыя, а пасьля ўжо зьяўляецца Лукашэнка – сапраўдны homo sovieticus.

Лукашэнка – гэта крайні выпадак. Гэты выпадак складаецца з асаблівай мешаніны камуністычнай рыторыкі з фашыстоўскай, з поўнай адсутнасьці палітычнай традыцыі, з пагарджаньня законамі, з палітычнай культуры калхознага кіраўніка, з нарцызму і эгатызму. Гэты сындром можа дасьледавацца ў палітычнай псыхапаталёгіі. Аднак не належыць ігнараваць паталягічныя выпадкі. У іншай форме і ў іншым часе мы можам гэтыя паталёгіі напаткаць у кожнай з посткамуністычных краінаў, таксама і ў Польшчы.

Таму возьмем пад увагу: Лукашэнку парадзіла сытуацыя беларускай вайны ўсіх супраць усіх – беларускай вайны «наверсе». У такіх войнах ніколі няма чыстай віны і чыстай невінаватасьці. Усе крыху вінаватыя і адказныя. І ўсе становяцца ахвярамі такой вайны. Адзіным пераможцам застаецца Лукашэнка, а ўчорашнія ворагі ствараюць сёньня толькі кааліцыю прайгралых.

Беларускі канфлікт – гэта, відавочна, жорсткае змаганьне за ўладу: хто будзе кіраваць? Але ён таксама шчэ й спрэчка пра спосаб кіраваньня: спрэчка паміж недасканалай, некампэтэнтнай і скарумпаванай парлямэнцкай дэмакратыяй і недасканалай, некампэтэнтнай і скарумпаванай дыктатурай Лукашэнкі. Гэтая спрэчка, без увагі на цяперашні посьпех прэзыдэнта, зусім не закончаная. Таму варта ўсьвядоміць, за што вядзецца гульня.

Стаўкаю выступаюць ня толькі прынцыпы, якія польская палітыка мусіць бараніць, калі хоча захаваць вернасьць нацыянальнай традыцыі. Стаўкаю выступае Расея.

Дачыненьні Лукашэнкі з Масквою зусім неадназначныя. Лукашэнка – лёкай-практыкант, які з запалам пачаў вучыць свайго пана вялікарасейскім манерам. У гэтых дачыненьнях Старэйшага Брата з Малодшым ужо не сабака матляе хвастом, а хвост спрабуе матляць сабакам. Расейцы надоўга запамятаюць прыніжэньне, якое зьведаў іхні прэм'ер ад калхознага Напалеона.

Лукашэнка ўносіць у расейскія дэбаты тон, блізкі рыторыцы Зюганава і Жырыноўскага, тон, забойчы для расейскай дэмакратыі. Беларусь, кіраваная Лукашэнкам, ізноў становіцца «Вандэяй», гэтым разам – расейскай дэмакратыі. Лукашэнка –гэта зусім не маскоўская марыянэтка. Ён – савецкая марыянэтка, што разбэшчвае расейскія дэмакратычныя дэбаты і шукае агульнай мовы з расейскай «чорнай сотняй». Калі Беларусь будзе прыяднаная да Расеі, я абсалютна не зьдзіўлюся, як гэты калхозны Банапарт паспрабуе здабыць крамлёўскую ўладу. Урэшце, чым ён горшы за грузінскага сэмінарыста?

Калі я некалькі месяцаў назад праводзіў інтэрвію з прэзыдэнтам Беларусі, ён упарта паўтараў мне, што «мы, славяне» добра разумеем, што «расейская мова – уласнасьць ня толькі адных расейцаў, а ўсіх савецкіх людзей». Штосьці загучэла ў маіх вушах – нейкі знаёмы, але злавесны тон, нейкая знаная, але брыдкая мэлёдыя...

130 гадоў назад, у 1867 годзе, у Маскве адбыўся славянскі зьезд, арганізаваны вялікарасейскімі панславістамі. Так выглядала іхняя тагачасная пазыцыя: «Расея, як бы там ні было, ня можа хаваць ані племянной супольнасьці і сувязяў з 80 мільёнамі славянаў, ані сваёй сваяцкасьці з 30 мільёнамі аўстрыйскіх і турэцкіх падданых, што знаходзяцца па-за расейскімі межамі». Даводзілася таксама, што «славянскія мовы настолькі не разышліся і не застылі ў сваёй адасобленасьці, каб паміж іхнімі носьбітамі не было поўнага разуменьня». Панславісты выказвалі пры тым меркаваньне, што расейская мова – як найбольш сталая – павінна стаць органам і асноваю славянскага задзіночаньня.

Гэта быў смутны час для Польшчы. Польшча трывала ў жалобе пасьля паразы паўстаньня, адзначанай высылкамі, экзэкуцыямі і шыбеніцамі Мураўёва-Вешальніка? Аднак жа і для Польшчы мелі панславісты ласкавае слова. Сьцьвярджалі, праўда, што Польшча – гэта «Юда славяншчыны», які праз высакамернасьць ці маладушнасьць здрадзіў ідэі славянскага братэрства і асудзіў сябе на загубу. Грахом Польшчы было тое, што яна не разумела «гістарычнай місіі Расеі», што мела заключацца ў вызваленьні і задзіночаньні ўсіх славянаў. Аднак сьцьвярджалі, што «Расея гатовая прыняць Польшчу, як, кахаючы, матка прымае блуднага сына, што вяртаецца ў пакоры».

Панятак паляка дзялілі на этнаграфічны і палітычны. Этнаграфічны паляк не перашкаджаў расейскім панславістам, але паляк у палітычным сэнсе выступаў натуральным і небясьпечным ворагам Расеі. Панславісты даводзілі, што «ў Расеі няма нянавісьці да польскага племя, але ёсьць і павінна быць нянавісьць да ідэі дзяржаўнасьці Польшчы».

Сёньня да гэтай панславісцкай традыцыі зьвяртаецца Лукашэнка. Ці вяртаюцца арлы ў гнёзды? Што ж, савецкі арол – гэта савецкі арол. Ці вінаваты ён у тым, што прырода стварыла яго антывэгетарыянцам. А можа, гэта не арол? Можа, гэта сьцярвятнік?

ПЕРАКЛАЎ З ПОЛЬСКАЙ Ю.Б.

ФІЛЬМ

# Звычайны прэзыдэнт

*Обыкновенный президент. — Рэжысэр Юры Хашчавацкі, прад'юсар Пётар Марцаў, 50 хвілінаў, відэа. — Менск, 1996.*

Жанр — відэаэсэістыка. Аб'ект дасьледаваньня — асоба А.Лукашэнкі ў якасьці прэзыдэнта Беларусі. Форма — аповед. Стыль — «здарылася аднойчы гісторыя...». Відэааповед складаецца з уступу, чатырох разьдзелаў, лірычнага адступленьня й пасьляслоўя.

Гэты фільм — першая спроба айчыннай відэадакумэнталістыкі асэнсаваць і праілюстраваць ролю аднога чалавека ў найноўшай беларускай гісторыі. Падкрэсьленая гратэскавасьць падачы сюжэту можа выклікаць спрэчкі. Але наўрад ці гэта супярэчыць задачам аўтараў. Гэтаксама, як і гратэскавасьць самападачы галоўнага героя фільму не супярэчыць ягоным мэтам.

Падставай для акрэсьленьня жанру як відэаэсэістыкі можа служыць моцна выказанае «я» рэжысэра ў прапанаваных гледачу ацэнках. Гэта ўсьцешвае, паколькі спадчына савецкай традыцыі спавядае цалкам адваротнае. Фільм чакае шырокага абмеркаваньня. Але ўнікальнасьць сёньняшняй сытуацыі ў тым, што наўрад ці такое абмеркаваньне магчымае ў Беларусі ў бліжэйшы час. Некалькі цытатаў з «Обыкновенного президента» ўжо прагучалі ў тэлевізійных сродках масавай інфармацыі — на расейскім тэлеканале «ОРТ». Але яны ня могуць даць поўнай карціны. Таму нашым гледачам застаецца спадзявацца на шанец зрабіць копію фільма праз «знаёмых знаёмых сваіх знаёмых». Гэта варта зрабіць хаця б таму, што фільм багаты ўнікальнымі архіўнымі кадрамі, адзьнятымі за два гады прэзыдэнцкай Беларусі. Адмысловасьць беларускіх прэзыдэнцкіх «кадраў» у тым, што яны гавораць самі за сябе. Мы можам сьмяяцца ці плакаць, гледзячы на іх. Галоўная каштоўнасьць фільма ў тым, што ён не пакідае гледача абыякавым.

СЕВЯРЫН КВЯТКОЎСКІ

МІЖНАРОДНЫ КАМЭНТАР

# ЗЛОЕ ДАБРО

## *Гуманітарная дапамога выклікала ў Заіры крызыс, які спыніла толькі вайна*

Хваля руандыйскіх ўцекачоў, што нядаўна хлынула назад на радзіму, аказалася поўнай нечаканасьцю для ўсяго сьвету. І сапраўды, на першы погляд зусім незразумела, з чаго б гэта людзі, на харчы для якіх сусьветная супольнасьць выдаткоўвала мільёны даляраў, рызыкнулі быць разарванымі дзікімі зьвярамі ў джунглях ці памерці з голаду на шляху дадому. Але, як гэта ня дзіўна, сярод прычынаў аказалася і гуманітарная дапамога.

Масавыя ўцёкі адбыліся за тыдзень да заплянаванай Канадай пасылкі 10 тыс. сваіх вайскоўцаў разам з 4 тыс. амэрыканскіх для выратаваньня тых жа ўцекачоў. Гэтыя людзі – болей за мільён чалавек – знаходзіліся ў Заіры з 1994 году і цяпер кінуліся назад пасьля таго, як вакол іх выбухнула распачатая заірскімі паўстанцамі мясцовая вайна. У выніку, не дайшоўшы да радзімы, многія зь іх аказаліся ў джунглях на мяжы галоднай сьмерці.

Зыход сотняў тысячаў людзей аказаўся нагэтулькі раптоўным, што ааанаўскія чыноўнікі, адказныя за гуманітарную дапамогу, мусілі зьвяртацца па дапамогу да амэрыканцаў, якія сачылі за перасоўваньнем натоўпаў з сваіх касьмічных шпіёнскіх спадарожнікаў. Кожную гадзіну людзкія хвалі тысяча за тысячай перакатваліся празь мяжу ў Руанду. Што гнала гэтых людзей туды, дзе іх ніхто не чакаў?

Гэтыя людзі сьпяшаліся скарыстаць магчымасьць, дадзеную ім дзеяньнямі заірскіх паўстанцаў, вырвацца з рук 40 тыс. баявікоў хуту, якія і трымалі іх як вязьняў у лягерах для ўцекачоў. Гуманітарная дапамога, што мелася дапамагчы няшчасным ахвярам грамадзянскай вайны ў Руандзе, толькі падаўжала крызыс. Дапамога руандыйскім уцекачам у Заіры распачалася цалкам з добрымі намерамі. Шырокае асьвятленьне прэсай бедзтваў людзей з племя хуту, што шукалі паратунку ў суседняй краіне, забясьпечыла ім сымпатыю сусьветнага супольніцтва. Але лягеры, дзе пасяліліся ўцекачы, неўзабаве патрапілі пад кантроль экстрэмістаў з былой руандыйскай арміі і руандыйскай міліцыі, якія далучыліся да цывільных людзей.

Толькі цяпер сталася вядомым, што гэтыя баявікі ня проста скарысталіся прытулкам і выгодамі ад гуманітарнай дапамогі. Яны пераўтварылі лягеры ўцекачоў у свае вайсковыя базы. Як аказалася, дзеля гэтага яны наўмысна прыгналі з сабою сотні тысячаў цывільных людзей і сілай утрымлівалі іх у лягерах у якасьці прынады для гуманітарнай дапамогі і жывога шчыта. Як высьветлілі амэрыканскія вайсковыя спэцыялісты, крызыс з уцекачамі быў штучна створаны адмыслова дзеля гэтага. Пра гэта сьведчаць дакумэнты, што былі знойдзеныя ў пакінутых два тыдні таму лягерах. Ежа, што была пызначаная для мірных уцекачоў, сілай адбіралася і накіроўвалася салдатам. Тыя з уцекачоў, што атрымлівалі ад гуманітарных арганізацыяў зарплату за дапамогу ў разьмеркаваньні харчоў, пад пагрозай сьмерці былі вымушаныя частку грошай таксама аддаваць вайсковым экстрэмістам для экіпіроўкі іх салдатаў. Шпегі высочвалі ўсіх незадаволеных, якіх каралі жорсткай сьмерцю. А вайсковыя лідары выношвалі пляны выкарыстаньня лягераў для разгортваньня атакі на Руанду.

Найбольшымі зьверствамі славіліся 15 тыс. былых членаў руандыйскай міліцыі – інтэрагамвэ, якія моцна спрычыніліся да генацыду ў Руандзе ў 1994 г. У лягерах яны выконвалі ролю наглядчыкаў, зьбіралі «падаткі», кантралявалі разьмеркаваньне ежы і рэкрутавалі маладых мужчынаў у свае шэрагі. Таксама яны сачылі за тым, каб ніхто ня ўцёк зь лягераў. За такія спробы кіямі зьбівалі да сьмерці. Гэтыя інтэрагамвэ трымалі ў страху і супрацоўнікаў міжнародных гуманітарных арганізацыяў зь ліку мясцовых людзей. Яны не давалі нават праводзіць дакладнага перапісу насельніцтва, што дапамагала ім завышаць лічбы колькасьці ўцекачоў для атрыманьня дадатковых харчоў і іншых тавараў. Такая гуманітарная дапамога каштавала міжнароднаму супольніцтву ад 1,5 да 2 млн. даляраў штодня.

Няма нічога дзіўнага, што маючы такое добрае забесьпячэньне, баевікі хуту распачалі атакі супраць сваіх ворагаў зь ліку племя тутсі як у Руандзе, так і ў Заіры. Прычым у гэтым ім дапамагалі дэзарганізаваныя некіраваныя часткі заірскай арміі. У сваіх зьверствах да мірнага насельніцтва яны былі вартыя адны адных. Сытуацыя пачала мяняцца гэтай восеньню, калі заірскія паўстанцы зь ліку тутсі пры падтрымцы руандыйскай арміі нанесьлі моцны ўдар у адказ па сваіх крыўдзіцелях хуту і іх заірскіх хаўрусьніках. За два дні баеў паўстанцы выбілі хуту зь лягераў уцекачоў і загналі іх у заірскія джунглі.

Зусім невыпадкова, што такое разьвіцьцё падзеі прынялі толькі пасьля таго, як сьвет мабілізаваў для адпраўкі ў гэты рэгіён вайсковыя сілы. Улады Руанды, баючыся, што з прыбыцьцём міжнацыянальных сілаў будзе створаны шчыт, які засьцеражэ інтэрагамвэ ад адплаты, прысьпешылі падзеі. Міністар бясьпекі Руанды так растлумачыў дзеяньні сваіх войскаў на чужой тэрыторыі: «Там знаходзіўся вораг, адказны за генацыд, які вёў супраць нас партызанскую вайну, робячы набегі зь лягераў уцекачоў. Калі Вы ўдарыце мяне ў твар – я адкажу, але не абявязкова ў Ваш жа твар».

Міжнародныя дабрачынныя арганізацыі вынесьлі добры ўрок з досьведу руандыйскіх уцекачоў. Цяпер (у тым ліку і ў іншых краінах сьвету) яны будуць разьмяркоўваць дапамогу праз жанчын, што ня дасьць мужчынам магчымасьці выкарыстоўваць ежу ў якасьці абменнага тавару. Таксама вырашана, што трэба спыніць практыку скідваньня дапамогі на парашутах, бо ў такім выпадку яе замест цывільных людзей яшчэ хутчэй забіраюць вайскоўцы.

Супрацоўнікі ААН кажуць, што яны мусяць перагледзець цяперашнюю практыку дапамогі кожнаму, хто яе папросіць. Са словаў дырэктара амэрыканскай Асацыяцыі замежнай дапамогі ў бедзтвах Нана Бортана, гэты крызыс вельмі добра паказаў, што мірныя грамадзяне становяцца зброяй, накіраванай супраць іх жа саміх. А дырэктар яшчэ адной гуманітарнай групы Concern International Майк МакДонаг прызнаўся ў інтэрвію часопісу U.S. News & World Report: «Часта мы самі са сваёй дапамогай і ёсьць прычынай бедзтва».

Убачыўшы, што міжнародная дапамога нарабіла болей шкоды, чым карысьці, адна з найбуйнешых дабрачынных групаў CARE International ініцыявала падпісаньне паміж усімі падобнымі да яе арганізацыямі пагадненьня, якое гарантавала б немагчымасьць пераўтварэньня дапамогі ў рухавік канфлікту. Усе дабрачынныя групы мусяць пагадзіцца згарнуць сваю дзейнасьць адразу, калі паўстае пагроза выкарыстаньня дапамогі на ваенную карысьць ці ў выпадку пагрозы дзейнасьці самім супрацоўнікам дабрачынных арганізацыяў.

Праблема ў тым, што раптоўнае вырашэньне крызысу з уцекачамі ў Заіры можа затармазіць патрэбу ў такой зьмене тактыкі. Але дабрачынным арганізацыям, відаць, не давядзецца доўга чакаць новага выпрабаваньня. Вайна паміж рознымі палітычнымі і этнічнымі сіламі працягваецца ва ўсходнім Заіры, і сама краіна робіцца надзвычай нестабільнай. Паўстанцы хуту, ратуючыся ад непрыяцеля, уцяклі ў суседнюю Бурундзі, дзе заняліся сваім улюбёным заняткам – генацыдам. Адзін зь нядаўніх прыкладаў: яны пазганялі 300 чалавек у царкву і забілі іх. Пры гэтым Руанда сама застаецца агмянём напружанасьці, што падаграецца вяртаньнем уцекачоў, сярод якіх адразу пачынаюцца пошукі ўдзельнікаў генацыду 1994 г.

Сёньня супрацоўнікі ААН разглядаюць магчымасьць зьмены відаў дапамогі. Прапануецца замест ежы, коўдраў ды іншых традыцыйных відаў гуманітарнай дапамогі, у якой, са словаў руандыйцаў, яны ня маюць вялікай патрэбы, накіроўваць грошы на будаўніцтва дамоў, школаў і лякарняў. Бо найвялікшая праблема ў тым, што, вяртаючыся дахаты, хуту знаходзяць свае дамы занятымі прадстаўнікамі племя тутсі, якія, не жадаючы вызваляць чужое жытло, заклікаюць на сваю абарону ўрадавыя войскі. Міжэтнічны канфлікт пагражае разгарэцца з новай сілай.

**Уладзімер Бараніч**



ЗША

# ДЗЕЦІ ПАД КАНТРОЛЕМ

*Вялікая праблема для амэрыканскіх бацькоў сёньня — тое, што яны ня ведаюць, чым займаюцца іхнія дзеці-падлеткі. Але ім на дапамогу прыйшлі найноўшыя тэхналёгіі. На рынку ўжо зьявіліся прыстасаваньні для кантролю за паводзінамі дзяцей.*

***Кожны бацька ці маці ведае, колькі клопатаў прыносяць непаслухмяныя дзеці. Амэрыканскія бацькі, у адрозьненьне ад нашых, заўсёды турбуюцца, ці ня паліць іх сын марыхуану, альбо, што яшчэ горш, ці ня нюхае какаін, а можа ён глядзіць парнаграфію па кабэльнай тэлевізіі ці размаўляе праз інтэрнэт зь якімі вычварэнцамі? Тыпова амэрыканская бацькоўская праблема — наяўнасьць машыны ў іх 16-гадовых дзяцей. Куды ён ці яна паехалі? На якой хуткасьці? Чым цяпер займаюцца? Хуткае разьвіцьцё тэхналёгіяў дало дзецям занадта шмат розных забароненых спакусаў. Тэхніка, што спарадзіла большасьць з гэтых праблемаў, цяпер мусіць іх вырашаць.***

## Машыны

Дзеля кантролю за выкарыстаньнем сямейнай машыны многія амэрыканскія бацькі набываюць і ўсталёўваюць лічбавае кампутарызаванае прыстасаваньне пад назвай DriveRight, якое вырабляе каліфарнійская фірма Davis Instruments. DriveRight запісвае падрабязную інфармацыю пра тое, якую адлегласьць праехала машына, як хутка яна разганялася і спынялася, на якой хуткасьці рухалася, і што дакладна зь ёю адбывалася ў выпадку якога здарэньня. У кампутар можна ўвесьці паказчыкі пераключэньня перадачаў, разгону і тармажэньня, вызначыць межы, пасьля якіх прыстасаваньне будзе сыгналізаваць аб перавышэньні хуткасьці. Калі хто захоча адключыць DriveRight ад бартавой сеткі ці зьмяніць праграму, кампутар актывізуе сыгнал трывогі (як пры спробе ўгону), які нельга выключыць без увядзеньня паролю. Адключэньне прыстасаваньня ад сеткі таксама не дапаможа падлетку сьцерці непажаданую інфармацыю —DriveRight скідае інфармацыю толькі пасьля ўвядзеньня адпаведнага паролю.

З нагоды новага электроннага назіральніка ў ЗША разгараецца канфлікт пакаленьняў. Бацькі кажуць, што DriveRight неабходны ім, каб гарантаваць бясьпеку сваіх дзяцей-падлеткаў на дарогах. А тыя, у сваю чаргу, абураюцца тым, што электронны шпіён толькі перашкаджае ім добра весьці машыну, бо ўвесь час яны мусяць памятаць пра ягоную пільную прысутнасьць, што небясьпечна адцягвае іх увагу. У чым бацькі і дзеці пагаджаюцца, дык гэта у тым, што ўстройствы падобныя DriveRight ніяк не спрыяюць даверу паміж імі. Але бацькі апраўдваюць такое пагаршэньне адносінаў у сям'і тым, што выбіраюць найменшае зло — прынамсі, існуе больш гарантыяў вяртаньня дзяцей дахаты жывымі. Падлеткі адказваюць на гэта ўласьцівай ім у такіх выпадках вынаходлівасьцю — шукаюць розных знаёмых «сьпяцоў», што блякуюць дзеяньне кампутара ці падбіраюць пароль.

## Наркотыкі

Апроч кантролю на дарогах, амэрыканскія бацькі атрымалі магчымасьць сачыць за ўжываньнем дзецьмі наркотыкаў. Кампанія Psychemedics Corporations прапануе для гэтага тэхналёгію радыёімуннага аналізу валасоў з галавы чалавека. Фірма сьцьвярджае, што такі тэст пад назвай PDT-90 зьяўляецца нашмат



больш дакладным, чымся традыцыйны аналіз мачы, бо дазваляе засякаць сьляды наркотыкаў, што прымаліся за 90 дзён да тэсту, у той час як мача трымае падобную інфармацыю ўсяго 2-3 дні. Фірма Psychemedics гарантуе, што тэсты паводле сыстэмы PDT-90 дазваляюць знаходзіць самы шырокі спэктар наркотыкаў, у тым ліку какаін (разам з крэкам), марыхуану, прадукты опіюму (уключаючы гераін), мэтафэтамін і ЛСД. Сыстэма PDT-90 вельмі простая для ўжытку. Бацькі адразаюць у свайго дзіцяці сантымэтровую пасму валасоў і разам з чэкам на 75 даляраў перасылаюць іх у Psychemedics Corporations, а пасьля два тыдні чакаюць выніку.

Як і трэба было чакаць, такая праверка ня выклікалі энтузіязму сярод моладзі. Тым ня менш, многія бацькі апраўдваюць мэтазгоднасьць выкарыстаньня PDT-90 тым, што такія тэсты гарантуюць бясьпеку іхнім дзецям і абараняюць тых ад больш суровай увагі з боку крымінальнай судовай сыстэмы. Балазе, зробленыя па пошце вынікі PDT-90 тэстаў не прымаюцца ў судах у якасьці ўлікі. А дзеці вельмі рашуча выступаюць супраць сыстэмы PDT-90, заяўляючы, што такое тэставаньне прыніжае іх годнасьць і ставіць пад сумнеў іх сумленнасьць і вартасьць даверу.

## Тэлевізія

Кабэльная тэлевізія, што прапануе шырокі выбар парнаграфіі і гвалту, таксама моцна турбуе амэрыканскіх бацькоў. Дэбаты пра шкоду такога роду відовішчаў пачаліся ад таго часу, як зьявілася сама тэлевізія. Апошнія дасьледаваньні паказваюць, што рэгулярны прагляд дзецьмі гвалтоўных сцэнаў можа выклікаць іхняе жаданьне паўтарыць убачанае на практыцы. Амэрыканская асацыяцыя псыхолягаў падлічыла, што сярэдняе амэрыканскае дзіця ці падлетак бачыць за год 10 тыс. забойстваў, згвалтаваньняў і ўзброеных крывавых нападаў. Больш за тое, паводле бюлетэня Global Child Health News and Review, звыш 1000 рознага роду дасьледаваньняў і апытаньняў сьведчаць, што штодзённае ўліваньне моцных дозаў відэагвалту павышае агрэсіўнасьць у паводзінах, асабліва ў хлопчыкаў.

Дзеля абмежаваньня доступу дзяцей да непажаданай для іх відэапрадукцыі 8 лютага сёлета прэзыдэнт Клінтан падпісаў адмысловы «Акт аб тэлекамунікацыях», дзе ёсьць разьдзел пад назвай «Бацькоўскі выбар тэлевізійных праграмаў». Гэты акт абавязвае ўсіх амэрыканскіх вытворцаў тэлевізараў з памерамі экрана 33 см і болей забясьпечваць іх прыставаньнямі, вядомымі як V-чыпы. Гэтыя V-чыпы дазваляюць бацькам праграмаваць свае тэлевізары на аўтаматычнае адключэньне пры пераключэньні на праграму, дзе ўтрымліваюцца сцэны з пэўным узроўнем гвалту ці эротыкі. Закон прадпісвае, каб усе вяшчальнікі, уладальнікі кабэльных сетак і «іншыя відэадыстрыбутары» на працягу году распрацавалі агульную сыстэму рэйтынгаў. Калі самі яны ня здолеюць разам прыйсьці да адзінага стандарту, то Фэдэральнае бюро вяшчаньня створыць сваю ўласную рэйтынгавую сыстэму.

Гэта азначае, што бацькі будуць выбіраць праграмы, якія дзеці могуць глядзець, а што забароненае. Праўда, як і ў выпадку з машынамі, асабліва кемлівыя дзеці могуць самі навучыцца перапраграмоўваць тэлевізар і пры адсутнасьці старэйшых глядзець усё, што захочуць.

## Інтэрнэт

Прыблізна такая ж праблема існуе і ў адносінах да сусьветнай кампутарнай сеткі Інтэрнэт. Тут ролю цэнзара выконваюць спэцыяльна распрацаваныя праграмы, што блякуюць доступ да пэўных электронных адрасоў. Паколькі самі ўладальнікі такіх адрасоў не абавязаныя вызначаць градацыю паводле ўзроўню гвалтоўнасьці ці сэксуальнасьці іх зьместу, то праграмы-цэнзары часта памыляюцца. Але бацькі спакойна глядзяць на тое, калі праграма блякуе доступ да дзіцячай Інтэрнэтаўскай старонкі з назваю «Прыгажуня і зьвер» замест парнаграфічнай «Прыгажуні зь зьверскімі грудзямі». Маўляў, лепей ня даць доступу да першага, чымся дазволіць апошняе.

Але ня ўсе пагаджаюцца, што ў выпадках, калі гутарка ідзе пра сэкс, гвалт і свабоду слова, то лепшая мера абароны дзяцей —простае блякаваньне доступу. Паўстае чыста амэрыканскае пытаньне пра парушэньне правоў дзяцей і падлеткаў на самастойны выбар таго, што ім глядзець і якую інфармацыю ім атрымліваць. Ці маюць бацькі права замахвацца на іх свабоду слова? Аказваецца, маюць. Заканадаўства ЗША, выпрацаванае на падставе прэцэдэнтаў, створаных рашэньнямі Вярхоўнага Суда, вызначае, што асобы маладзейшыя за 18 гадоў маюць абмежаваныя правы на свабоду слова.

Трэба чакаць, што з далейшым разьвіцьцём тэхналёгіяў будуць паўставаць новыя пытаньні такога кшталту. Па меры таго, як будуць зьяўляцца новыя спосабы небясьпечнага ўзьдзеяньня на псыхіку і здароўе дзяцей, тая ж прамысловасьць будзе забясьпечваць бацькоў яшчэ больш выкшталцонымі мерамі кантролю і цэнзуры. Але якімі б разумнымі і эфэктыўнымі ні былі такія электронныя нянькі, яны ня здольныя замяніць старога як сьвет мэтаду: добрага выхаваньня і асабістага прыкладу. Там, дзе ў сям'і няма ладу, электроніка не дапаможа.

**Уладзімер Бараніч**

# Посуд Zepter, Winston, IMCO

*Якая гаспадыня ня марыць пра посуд, у якім можна смажыць бяз тлушчу і варыць без вады? Як паказаў аналіз рынку, такую магчымасьць дае ня толькі агульнавядомы Zepter, але і посуд марак Winston IMCO, як і Zepetr, выраблены зь нержавейнай сталі і якая мае тэрмакантроль. Для таго, каб Вы змаглі ацаніць уласьцівасьці чароўнага посуду, публікуем вынікі параўнаўчых выпрабаваньняў.*

**ЧЫСТЫ РАЗРЭЗ**

Узор кожнай маркі — высокі рондаль (далей — рондаль) і нізкі рондаль (далей — рондлік) разрэзалі ў лябараторыі. Аналізу падвяргалі дно, сьценкі і кромкі.

Дно ў гэтым посудзе таўсьцей, чым у звычайным, яго называюць тэрмічным ці акутэрмічным. Гэта значыць, што яно раўнамерна награецца, аднолькава разьмяркоўваючы цеплыню. Канструкцыя яго ўяўляе сабой "сэндвіч" і складаецца са слою алюмінійнага сплаву і бляхі нержавейнай сталі, ці зь дзьвюх блях нержавейнай сталі, паміж якімі пракладзены слой алюмінійнага сплаву. Таўшчыня "сэндвіча" у выпрабавальным посудзе вагаецца ў межах ад 7,3 мм да 8 і нават 10,5 мм. У посудзе з такім дном ежа не прыгарае.

Кромкі такога посуду зробленыя альбо ў выглядзе жалабку, ці закругленыя і адагнутыя. Гэтая формы надаецца ім не для прыгажосьці: кромка павінна ўспрыняць накрыўку так, каб поласьць была закрытая герметычна. Накрыўкі масіўныя, можна сказаць, цяжкія.

Сьценкі "чароўнага посуду" у адрозьненьне ад масіўнага дна незвычайна тонкія — 0,8-1 мм таўшчынёй. Як вядома, нержавейная сталь нашмат горш праводзіць цеплыню, чым, напрыклад, алюміній. І гэтая ўласьцівасьць пасьпяхова выкарыстоўваецца: тонкія сьценкі забясьпечваюць ахалоджваньне таго, што перамяшчаецца каля іх.

Матэрыял, што выкарыстоўваецца для вырабу посуду, зьяўляецца звычайнай машынабудаўнічай нержавейнай стальлю, якая ўжываецца яшчэ ў вытворчасьці мэдыцынскіх інструмэнтаў, у стаматалёгіі і інш.

**ПОГЛЯД ПАД НАКРЫЎКУ**

Як вядома, любая сьвежая ежа мае сваю ўласную вільгаць. Посуд марак Winston, Zepter, IMCO і іншых, што паступаюць на рынак, гарантуе выкарыстаньне менавіта гэтай натуральнай вільгаці. Для нагляднасьці разгледзім два прыклады: гародіна, мяса.

Гародніну кладуць у рондаль і накрываюць накрыўкай. Пасьля гэтага ўключаюць награвальнік, які дае цеплыню дну. Вільгаць пераўтвараецца ў пару, якая падымаецца ўздоўж халодных сьценак, асаджаецца на накрыўцы і ў выглядзе кропель падае ізноў на прадукты. Бесьперапынная цыркуляцыя вільгаці апрацоўвае гародніну.

Пара выконвае яшчэ адну важную задачу: там, дзе накрыўка прылягае для кромкі, утвараецца "падушка", якая не выпускае з рондля вільгаць. У рэшце рэшт магчыма ўзьнікненьне вакуумнага эфэкту, які дадаткова падціснe накрыўку.

Усе віды мяса таксама маюць натуральную вільгаць, а акрамя гэтага тлушч. У адрозьненьне ад гародніны, мяса закладаюць ва ўжо разагрэты рондаль. Як толькі яно дакранецца гарачага дна, яго поры закрываюцца і яно літаральна прыліпае да дна, але не прыгарае. Празь дзьве-тры хвіліны мяса лёгка адстане, і Вы здолееце лёгка перавярнуць яго на другі бок.

Абсмажыўшы мяса зь дзьвюх бакоў, посуд накрываюць накрыўкай, і далей усё цудоўна робіцца само.

Наборы посуду Winston, Zepter, IMCO забясьпечваюць варку на пары. У першую чаргу гэта тычыцца некаторых відаў рыбы, бабовых, бульбы, зернавых, паколькі гэтыя прадукты бедныя тлушчамі і натуральнай вільгацьцю. Іх кладуць на краткі ў спэцыяльныя рондлі для варкі на пары ці на ўкладышы, якія ставяць у рондаль, наліўшы ў яе пэўную колькасьць вады. Пара робіць сваю справу.

Тэрмічная апрацоўка прадуктаў з выкарыстаньнем іх натуральнай вільгаці і тлушчу мае адно істотную перавагу: не губляюцца многія каштоўныя кампанэнты ежы.

**ЗА ПАМЫЛКУ ДАВОДЗІЦЦА РАСПЛОЧВАЦЦА**

Якаснае гатаваньне ежы ў падобным посудзе абумоўлена яшчэ адным момантам — наяўнасьцю тэрмакантролю.

Посуд марак Winston, Zepter, IMCO мае тэрмомэтар ці лічбавае ўстройства, якое забясьпечвае неабходны кантроль за тэмпэратурай у рондлі, гэта значыць падказвае гаспадыне яе дзеяньні.

Посуд без тэрмакантролю можа аказацца для многіх ня толькі расчараваньнем, але і стратай вялікай колькасьці грошай. Яна прыгодная толькі для клясычнага прыгатаваньня ежы. Варыць у ёй бяз тлушчаў і вады можа толькі ўмелая гаспадыня, якая мае досьвед ня некалькіх месяцаў, а некалькіх гадоў.

Для тэстаў былі набытыя два наборы посуду без тэрмакантролю: Inoxpran і АТС.

**ВЫПРАБАВАНЬНІ**

*ІНСТРУКЦЫЯ*

Да кожнага посуду ягоны вытворца абавязаны прыкласьці інструкцыю па выкарыстаньні і даглядзе, без каторай карыстацца такім посудам проста нельга.

**Winston**: даволі поўная інструкцыя з малюнкамі па ўжываньні і даглядзе за посудам, інфармацыя пра прадукты.

**Zepter**: даволі поўная інфармацыя для кухаркі з інструкцыяй па ўжываньні і даглядзе.

**IMCO**: дакумэнтацыя няпоўная.

**Inoxpran**: дакумэнтацыя адсутнічае.

**АТС**: даволі поўная дакумэнтацыя ў выглядзе копіі.

*ТРЫВАЛАСЬЦЬ ДА КАРОЗІІ*

Кожны вытворца посуду з хроманікілевай сталі сьцьвярджае, што ягоны тавар мае абсалютную трываласьць да карозіі. Каб праверыць гэта, сьпярша на посуд узьдзейнічалі напрацягу 5-ці хвілінаў сернай кіслатой і сульфатам медзі пры тэмпэратуры 60 С. Ніякіх зьменаў выяўлена не было. Потым пасьля чатырохразовага напрацягу гадзіны кіпячэньня растворам хлорыстага натрыя і воцатнай кіслаты і вольнай сушкі напрацягу 24 гадзінаў было выяўленае, што ўсе ўзоры выпрабаваньне вытрымалі, пацярпелі толькі мэталізаваныя ручкі на накрыўцы Inoxpran. На шчасьце, накрыўкі не прыходзяць у кантакт зь ежай. І нарэшце, напрацягу 6 гадзінаў выкарыстоўвалі раствор жалезістаамонійнага сульфату і воцатнай кіслаты. Не было выяўленае ніякіх бачных адрозьненьняў паміж чыстымі паверхнямі і тымі, што падвяргаліся ўзьдзеяньню. А вось ручкі посуду Inoxpran з жоўтым пакрыцьцем ня вытрымалі выпрабаваньня агрэсіўнымі растворамі. Пакрыцьце зьлезла: прынада аказалася фальшывай.

*РУЧКІ*

Ручкі зьяўляюцца важным элемэнтам посуду, і пры пакупцы павінны быць уважліва ацэненыя.

У ручках посуду Zepter, АТС і IMCO выкарыстанае спалучэньне мэтала і пластмасы. Верхняя мяжа нагрэву дасягае 200 С. Фірмы Winston і Inoxpran аддалі перавагу мэталу. Справа ідзе пра нержавейную ручку, якая, напрыклад, у посуду Winston, выкананая так, што нават у самага маленькага рондля тэмпэратура ручкі пры варцы дазваляе брацца за яе голымі рукамі.

Мацаваньне ручак да посуда — таксама вельмі важны момант, бо ўплывае на тэрмін службы вырабу. Напрыклад, у посуда Winston ручкі высокатрывалыя і вытрымліваюць нават падзеньне з вышыні.

Ва ўсім правераным посудзе ручкі адпавядаюць патрабаваньням абароны ад апёкаў і дастаткова трывалыя.

Матэрыял, што выкарыстоўваецца для вырабу ручак, — хроманікелевая сталь з узаемаадносінамі элемэнтаў 18:10 — адпавядае мэдычным патрабаваньням, якія прад'яўляюцца да вырабаў, якія кантактуюць з прадуктамі.

*ДАДАТКОВЫЯ ЗЬВЕСТКІ*

Было праверанае, колькі часу патрабуюць некаторыя вырабы для дасягненьня тэмпэратуры 100 С, і якая тэмпэратура ўтрымліваецца ў іх праз 70 і 100 хвілінаў. Адначасова было замеранае агульнае спажываньне энэргіі.

Дно вырабаў награвалі да 100 С і потым у посуд укладалі кавалкі ялавічыны масай 130 г. Праз тры хвіліны абсмажаньня з аднаго боку іх пераварочвалі і абсмажвалі з другога. Затым у посуд клалі бульбу (300 г) і гароднінавую сумесь (100 г). Рондаль накрывалі накрыўкай і награвалі пры трэцяй ступені ўключэньня электрычнай пліты. Пры дасягненьні тэмпэратуры варкі гарэлку пераключалі на мінімальную ступень.

Напрацягу ўсяго тэста замяралася тэмпэратура ў поласьці посуду і правяралася, ці адпавядае яна той, якую паказаў тэрмакантроль на накрыўках.

Праз 70 хвілінаў гарэлку пліты выключалі, а ежу вытрымлівалі ў посудзе з закрытай крышкай напрыцягу 30 хвілінаў для дадатковага смажаньня без падвода энэргіі.

Зробленая бяз тлушчу ежа была смачнай. Дарэчы, кавалкі мяса пасьля прыгатаваньня мелі вагу 80-85 г. Дадзеныя вымярэньняў прыведзеныя ў Табліцы.

| ПАКАЗЧЫКІ | **Zepter,** рондаль с 20 см | **Winston,** рондаль с 20 см | **АТС** рондаль с 16 см | **IMCO,** рондаль с 16 см | **Inoxpran,** рондаль с 20 см |
|---|---|---|---|---|---|
| Час, неабходны для дасягненьня тэмпэратуры 100 С (хвіл.) | 14,40 | 10,59 | 8,00 | 11,0 | 6,30 |
| Тэмпэратура ў поласьці праз 70 хвіл. (С) | 88 | 89,2 | 96,2 | 93,9 | 95,5 |
| Агульнае спажываньне энэргіі (Втг.) | 181 | 183 | 175 | 182 | 170 |
| Тэмпэратура ў поласьці праз 100 хвіл. (С) | 65 | 60.3 | 63,7 | 62,6 | 57,3 |

Далей праводзілася варка на пару з вымярэньнем спажываньня энэргіі. Выпрабаваньням падвергліся вырабы марак Zepter і Winston.

У рондаль залівалі ваду, накрывалі накрыўку і даводзілі да кіпеньня. Пасьля гэтага ў рондаль укладалі краткі з пятнаццацьцю кнэдлікамі і варылі напрацягу 10 хвілінаў. Як толькі тэмпэратура дасягала кропкі кіпеньня , гарэлку выключалі. Які ж быў расход энэргіі? У рондлі маркі Winston для варкі кнэдлікаў спатрэбілася 304 Втг, у рондлі Zepter — 308 Втг.

**Посуд ZEPTER**





Рондлік з камбінаванымі ручкамі d 20 см, рондлік з камбінаванымі ручкамі d 24 см, краткі з камбінаванымі ручкамі d 24 см, патэльня з камбінаванымі ручкамі d 26 см, міска d 24 см, краткі для фрыцюра. **Тэрмакантроль**

*Выпрабаваньні*

Дно і кромкі: агульная таўшчыня 10,5 мм, выкананьне дна — "сэндвіч": нержавейная сталь — алюмінійны сплаў — нержавейная сталь; таўшчыня сьценкі 1,0 мм; таўшчыня кромкі 1,0; кандэнсацыйны жэлаб;

накрыўка: таўшчыня ліста 1,0 мм, вага 535 г (d 24 см);

інструкцыя па выкарыстаньні і даглядзе — поўная;

трываласьць да карозіі — высокая.

**Посуд WINSTON**



Рондаль з ручкамі і накрыўкай d 16 см;

рондаль з ручкамі і накрыўкай d 20 см; рондаль з ручкамі і накрыўкай d 24 см; краткі з ручкамі d 24 см, патэльня з ручкамі d 24 см; укладыш для варкі на пары, пераходнае кальцо, міска, прысмок.

**Тэрмакантроль**

*Выпрабаваньні*

Дно і кромкі — агульная таўшчыня 8 мм, выкананьне дна — "сэндвіч": нержавейная сталь — алюмінійны сплаў — нержавейная сталь; таўшчыня сьценкі 0.8 мм; таўшчыня ўмацаванай кромкі 1.6 мм;

накрыўка зь ліста таўшчынёй 1,6 мм, вага 888 г (с 0,24 см);

інструкцыя па выкарыстаньні і даглядзе — поўная;

трываласьць да карозіі — высокая.

**Посуд IMCO**



патэльня з плясмасавай ручкай і накрыўкай d 25 см, патэльня з ручкай з плястмасы і накрыўкай d 16 см, рондлік з камбінаванымі ручкамі і накрыўкай d 16 см, міска d 19,5, прысмок, тарка.

**Тэрмакантроль.**

*Выпрабаваньні*

Дно — агульная таўчыня 7,3 мм; сьценка таўшчынёй 0.9 мм; кантактная паверхня дна з гарэлкай не абароненая слоем нержавейнай сталі, дно выкананае з двух слаёў: нержавейная сталь — алюмінійны сплаў; кромкі маюць таўшчыню 0.9-1.0 мм; накрыўка ўтопваецца ў кандэнсацыйны жэлаб посуду;

накрыўка зь ліста таўшчынёй 1,0 мм, вага 570 г ( d 24 см);

інструкцыя па выкарыстаньні і даглядзе — даволі поўная;

трываласьць да карозіі — высокая.

**Посуд АТС**



Рондаль з камбінаванымі ручкамі і накрыўкай d 16 см, рондлік з камбінаванымі ручкамі і накрыўкай d 24 см, патэльня з ручкай і накрыўкай d 24 см, рондаль з камбінаванымі ручкамі і накрыўкай d 20 см, рондлік з камбінаванымі ручкамі d 24 см.

**Тэрмакантроль адсутнічае**.

*Выпрабаваньні*

дно і кромкі — агульная таўшчыня дна 7,6 мм, выкананьне дна кшталту "сэндвіч" — нержавейная сталь — алюмінійны сплаў — нержавейная сталь; таўшчыня сьценак 0,6 мм; таўшчыня кромак 0,6 мм; кандэнсацыйны жэлаб.

накрыўка зь ліста таўшчынёй О,7 мм, маса 380 г (d 24 см);

інструкцыя па выкарыстаньні і даглядзе — даволі поўная (у выглядзе копіі);

трываласьць да карозіі — высокая.

**Посуд INOXPRAN**





Рондаль з ручкамі і накрыўкай d 20 см,

рондаль з ручкамі і накрыўкай d 24 см,

рондлік з ручкамі d 24 см, краткі з ручкамі d 22 см, патэльня з ручкамі d 22 см, рондлік з ручкай d 16 см, устаўка для варкі на пары, міска, падвеска для кухарскіх прыладаў, прысмок.

**Тэрмакантроль адсутнічае.**

*Выпрабаваньні*

Дно і кромкі — агульная таўшчыня дна 2,2 мм; выкананьне дна — "сэндвіч": нержавейная сталь — алюмінійны сплаў — нержавейная сталь; накрыўка ўваходзіць ва ўзмоцненую кромку сьценкі;

накрыўка зь ліста таўшчынёй 0,9 мм, вага 440 г (d 24 см);

інстукцыі па выкарыстаньні і даглядзе няма;

трываласьць да карозіі — высокая, за выключэньнем мэталічнага пакрыцьця ручкі накрыўкі: жоўтае пакрыцьце на ручках не вытрымлівае ўзьдзеяньня кіслых раствораў.

**НАША ПАРАДА**

Усе пратэставаныя мадэлі вырабленыя з хромнікелевай сталі. За такім посудам, у адрозьненьне ад звычайнага, лягчэй даглядаць, ён лягчэй мыецца. Лепш за ўсё захоўвае зьнешнія шліфаваныя паверхні посуд маркі Winston. Нядбалы догляд і выкарыстаньне пры мыцьці жорсткіх мачалак прыводзяць да пагаршэньня выгляду паліраванай паверхні. Для захаваньня бляску іх трэба выціраць насуха.

Важны элемэнт — ручкі. Пры пакупцы іх трэба ўважліва рагледзець: як яны зробленыя, як мацуюцца, зь якога матэрыялу. Не паддавайцеся на пазалочаную прынаду: жоўты мэтал зьяўляецца нетрывалым, ён сьціраецца, змываецца пры мыцьці ўручную, а яшчэ хутчэй — пры мыцьці посуду ў мыечнай машыне.

Прыкіньце вагу накрыўкі. Больш важкая садзейнічае падтрыманьню ў рондлі вакуума, які ўзьнікае пры паніжэньні тэмпэратуры і наступнай кандэнсацыі пары. Самыя цяжкія накрыўкі ў посуда Winston (880 г). Лягчэйшыя ў IMCO (750 г) і Zepter (535), а вось накрыўка посуду АТС важыць толькі 380 г. Форма накрыўкі таксама грае немалую ролю. З гарызантальнай паверхні кандэнсаваная пара кропае раўнамерна на ўсю паверхню прадукта (напрыклад, у накрыўках маркі Winston), у выпуклых накрывак — сьцякае да краёў, і толькі потым пачынае кропаць.

Ні ў якім разе не купляйце посуд без тэрмакантролю: варыць без вады і тлушчу і пры гэтым выкарыстоўваць магчымасьць зьніжэньня спажываньня энэргіі нельга, ня ведаючы тэмпэратуры ўнутры рондля.

Зьвярніце ўвагу на прылады. Да іх адносяцца краткі, укладыш для варкі на пары і іншыя прадметы, якія дазваляюць гатаваць ежу адначасова ў некалькіх рондлях — столбікам. Разнастайнасьцю прыладаў адрозьніваюцца наборы марак Winston, Zepter і IMCO.

Пры пакупцы майце на ўвазе: варку ў рондлях з дном кшталту "сэндвіч" і тэрмакантролем неабходна сьпярша добра засвоіць. Несумненна, тая гаспадыня, якая навучыцца гатаваць правільна, выкарыстае ўсе перавагі гэтага посуду, уключаючы і эканомію энэргіі.

**54. СУПОЛЬНАСЬЦЬ: БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК / ГАЛ. РЭД. А.СЁМУХА, К.МАЦКЕВІЧ І ІНШ. —1989 — 8' — 4 -12 с., іл. — (машынапіс + ксэра). — НАКЛ. 3000.**

1989: 1, 2, 3, 4, 5.

Мастацкае аздабленьне: эмблематыка і дэвіз адсутнічае. Каптур напісаны мастацкім шрыфтам у чорным колеры. Выдавалася у 1989 г., выйшла 5 нумароў. Мастацкае аздабленьне Генадзя Лойкі. Каптур зьмяшчае: тытул, падзагаловак, зьвесткі аб парадкавасьці і час выданьня.

**55. СУТНАСЬЦЬ: ОРГАН БАРАНОВИЧСКОГО ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКОГО ОБЪЕДИНЕНИЯ «СУТНАСЬЦЬ» (ГРУППА ПОДДЕРЖКИ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ») / СЛАБЧЕНКО С.И. — БАРАНОВИЧИ. — 1989 — 8' — [2 с.] —(фотарэпрадукаваньне).**

1989: 1, 2.

Выданьне баранавіцкага грамадзка-палітычнага аб'яднаньня «Сутнасьць» — групы падтрымкі БНФ выходзіла у 1989 г. Нам вядомы толькі N2 гэтае газэты. Пра існаваньне N1 можна меркаваць толькі з нумарацыі. Газэта дзьвюхмоўная; беларускія матэрыялы друкуюцца парэформным правапісам. N2 падрыхтаваў Слабченко Н.И.. Пэрыядычнасьць не пазначаная. Фармат — прыкладна у 1/8 аркуша, аб'ём — 2 непагінаваныя старонкі, аддрукаваныя толькі з аднаго боку. Наклад ня высьветлены. Газэта надрукавана фотаспосабам.

Друкаваліся матэрыялы палітычнага і культурна-асьветніцкага характару.

**56. УНІЯ: ПАДЗАГАЛОВАК ЗЬМЯН. / ГАЛ. РЭД. І.ДУБЯНЕЦКАЯ; ЗАСНАВ. С.АБЛАМЕЙКА; ТЭХ. РЭД.: К.МАЦКЕВІЧ. — МЕНСК. — 1990 — 8' —32 с. — НАКЛ. 10.000. — (друк).**

1990: 1, 2.

Часопіс «Унія» выходзіць з 1990 г. Да канца 1990 г. выйшла два нумары. Часопіс выдаваўся ў вокладцы, друкарскім спосабам. Выданьне багата аздобленае застаўкамі, фота- і графічнымі ілюстрацыямі. Мова часопіса беларуская, правапіс дарэформны. Асноўны склад рэдакцыі: заснавальнік С. Абламейка, галоўны рэдактар І.Дубянецкая; тэхнічны рэдактар К.Мацкевіч. Пэрыядычнасьць не пазначаная.

Матэрыялы зьмешчаліся пераважна культурнага і гістарычнага характару, зьвязаныя з уніяцтвам і хрысьціянствам увогуле.

Дадатковая інфармацыя — К.Мацкевіч.

**57. ФАКТ: ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ. — 1989. — №1-6. — 4'-8' — 4 с. — тираж 1000.**

1989: 1-6.

Палітычны штотыднёвік «Факт» пачаў выдавацца У 1989 г., на сродкі групы падтрымкі БНФ. Склад рэдакцыі не пазначаны, адрас рэдакцыі — на імя Гуревича Михаила Марковича. Фармат вагаўся, заяўленая пэрыядычнасьць не вытрымлівалася. Кожны нумар мае эмблематыку: герб «Пагоня». Тытул напісаны мастацкім шрыфтам.

Друкаваліся матэрыялы на палітычныя тэмы, а таксама праграмныя дакумэнты розных арганізацыяў.

**58. ФОРПОСТ: ПОДЗАГОЛОВОК ИЗМЕНЯЛСЯ / ГЛ. РЕД. Ю.Дмитриев. —1989-1990.**

1989: 1, 2; 1990: 1-2, 3-4, 5-6.

«Форпост: газета белорусского независимого информагентства «Белорусская звезда» (Belstar)» пачала выдавацца са жніўня 1989 г., на расейскай мове. У 1989 г. выходзіла асобнымі нумарамі, а з 1990 г. — здвоенымі. Склад рэдакцыі: Юры Дзьмітрыеў — галоўны рэдактар, Аляксандар Гарленка, Алена Мяцельская, Барыс Бураўка.

**59. ФРОНТ: НЕЗАВИСИМАЯ ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКАЯ ГАЗЕТА КООРДИНАЦИОННОГО СОВЕТА ДЕМОКРАТИЧЕСКОГО ПАРЛАМЕНТА ЗАПАДА И г. ГРОДНО / В.Яковлев. — 1989.**

У фондах Архіву адсутнічае.

**60. ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ: БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР. Бюлетэнь. —1989 (маш.+кс.)**

1989, N1.

У фондах Архіва адсутнічае.

**61. ШЛЯХ: падзагаловак зьмяняўся / Рэд.: М.Пракаповіч, У.Бозан, В.Мароз. — Друкарня Марціна Кухты — 1989. — 8' —2 - 4 с. — накл. 3.000.**

1989: 1, 2, 3, 4-5.

«Шлях» паўстаў як ВЫДАНЬНЕ БАРАНАВІЦКА-БЕРАСЬЦЕЙСКАГА АДДЗЯЛЕНЬНЯ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ», але ў N2 падзаголовак зьмяняецца: бюлетэнь Берасьцейскіх рэгіянальных рад БНФ «Адраджэньне». Кожны нумар мае сваю эмблематыку. Аб'ём вагаўся ад 2 да 4 старонак.

Матэрыялы друкуюцца пераважна палітычныя, лякальнага характару.

**62. EX LIBRIBS: теоретический журнал / А.Птушка, О.Магарил. —Издается Агентством «Белстар». — 1989. — 8'. — 10 с., іл.**

Вядома пра існаваньне аднаго нумару, які быў выдадзены агенцтвам «Белстар» у верасьні 1989 г. Мастацкае аздабленьне: тытул і загалоўкі некаторых артыкулаў выкананы мастацкім шрыфтам; рамкі ды ілюстрацыі.

Друкаваліся матэрыялы па філязофіі, псыхалёгіі ды літаратуры.

**63. ЭКСПРЭС: АДНАДЗЁНКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»: ВЫДАНЬНЕ АРГКАМІТЭТУ / А.КАВАЛЬЧУК, С.ДРАЧ. — МЕНСК. — 1990. — (ратапрынт).**

1990: 1, 2, 3, 4.

Выданьне Аргкамітэту БНФ «Экспрэс» выходзіла ў траўні-чэрвені 1989 г. Усяго выйшла чатыры выпускі. Мова выданьня беларуская, правапіс дарэформны. Усе выпускі падрыхтавалі А.Кавальчук і С.Драч. Фармат — у 1/16 аркуша, аб'ём — ад 6 да 10 старонак. Наклад ня высьветленны. Спосаб рэпрадукаваньня — ратапрынт.

Друкаваліся матэрыялы пераважна палітычнае тэматыкі.

*У наступным нумары «НН» будуць надрукаваныя дадатак ды ўдакладненьні да Каталёгу.*



## ● НОВЫЯ КНІП, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Максім Танк. Errata: Вершы. Пераклады.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. — 143 с. 1200 ас. ISBN 985-02-0200-9

**Савастюк А. Антонова Т. Формирование общества социальной справедливости в Беларуси.** — Менск: «Право и экономика», 1996. — 44 с. 250 ас. ISBN 985-6194-44-X

## НАВІНКІ




У сэрыі «Адкрытае грамадзтва» выйшлі новыя кнігі:

***Жан-Батыст Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён: Палітычнае жыцьцё і міжнародныя адносіны - Менск: БФС, 1996.***

Кніга ўяўляе сабою ў пэўным сэнсе даведнік, у якім вялікая ўвага зьвернутая на крыніцы, праблемы, спрэчкі і напрамкі пошукаў.

***П'ер Брунэль, Клёд Пішуа, Андрэ-Мішэль Русо. Што такое параўнальнае літаратуразнаўства? - Менск: Эўрафорум - БФС, 1996.***




Кніга трох францускіх аўтараў - лепшыя на сёньня ўводзіны ў параўнальнае літаратуразнаўства, у дысцыпліну, якая цалкам невядомая на постсавецкіх прасторах.



## РАРЫТЭТ

Паведамленьне для аматараў "Нашай Нівы"

У рэдакцыі "Нашай Нівы" Вы можаце замовіць рарытэтныя нумары з моманту аднаўленьня газэты ў Вільні:

№1-4 за 1991 г., №6-8 за 1992 г., №10, 12-18 за 1993 г., №1, 2, 6, 8-9, 12 за 1994 г., №5-8 за 1995 г.

Ахвотныя могуць замовіць ксэракопію любога іншага нумару.

Кантакт: Андрэй Андрыеўскі — тэл. 239-78-49 у Менску; адрас: Менск 220094, а/с 89.

## ЛІТОЎСКІ СТАТУТ

У Менск завезеныя кнігі віленскага акадэмічнага выданьня Першага Літоўскага Статуту 1529 г. У адным з тамоў зьмешчанае факсыміле трох сьпісаў Статуту — па-старабеларуску, па-лацінску, па-старапольску, у іншым томе — паралельныя тэксты гэтых сьпісаў, якія перададзеныя сучаснаю графікай.

**Кантакт: Андрэй Андрыеўскі — тэл. 239-78-49 у Менску; адрас: Менск 220094, а/с 89.**

## МЭТРЫКА

Паведамленьне для замоўцаў Літоўскае Мэтрыкі. У Менску маюцца шосты й восьмы тамы Мэтрыкі.

Кантакт: Андрэй Андрыеўскі — тэл. 239-78-49 у Менску; адрас: Менск 220094, а/с 89.

тэст

# ВАШАЯ НЕАБХОДНАСЬЦЬ У ДЗЕЦЯХ

Ніжэй пададзеныя меркаваньні, якія асацыююцца з нараджэньнем дзіцяці ў сям'і. Адзначце, зь якімі меркаваньнямі Вы згодныя ("так"), а зь якімі –не ("не").

1. Нараджэньне дзіцяці – гэта дабрае ўзрушэньне, новыя ўражаньні.
2. Радасьць у доме.
3. Магчымасьць праявіць сваю пяшчоту, апёку.
4. Рызыка для здароўя.
5. Вялікая фізычная нагрузка.
6. Дзіця – гэта дзіцячая пяшчота, прывязанасьць да бацькі, маці.
7. Дзіця – дапаможнік у сям'і, апора ў старасьці.
8. Магчымасьць выгадаваць адукаванага, цікавага чалавека.
9. Дзіця – спадкаемца ўсяго добрага ўва мне.
10. Цяжкасьць выхаваньня, навучаньня.
11. Разлад, напружанасьць у сям'і.
12. Матэрыяльныя цяжкасьці.
13. Дзіця – надзея і будучыня бацькоў.
14. Неабходнасьць на час пакінуць працу, калектыў.
15. Бяссонныя ночы.
16. Дзіця – гэта магчымасьць праявіць свой выхаваўчы патэнцыял.
17. Дзіця ўзмацняе сям'ю, пачуцьці паміж мужам і жонкаю.
18. Магчымасьць выгадаваць добрага, чульлівага чалавека.
19. Радасьць мацярынства (бацькоўства).
20. Вазьня зь пялёнкамі, кашкамі.
21. Дзіця – праблема жытла.
22. Дзіця – самы спрыяльны аб'ект укладаньня нашых сілаў.
23. Нарадзіць дзіця – значыць сутыкнуцца зь цяжкасьцямі ўладкаваньня ў садок.
24. Завесьці дзіця – значыць прывязаць сябе да дома.
25. Дзеці – гэта страта лепшай часткі нашага жыцьця.
26. Дзіця надае сэнс жыцьцю.
27. Дзеці – гэта хваляваньні за іх лёс, будучыню.
28. Складанасьць даць добрую адукацыю, прафэсію.
29. Гэта самы блізкі чалавек у горы і радасьці.
30. Залежнасьць ад бабулі і дзядулі.
31. Дзеці – гэта гонар бацькоў.
32. Дзеці – гэта вясёлыя гульні, зьмястоўны адпачынак.

Вы выканалі заданьне на вызначэньне патрэбы ў дзецях. Запішыце сабе па адным балу за кожны адказ "так" для наступных меркаваньняў: 1, 2, 3, 6, 7, 8, 9, 13, 16, 17, 18, 19, 22, 26, 29, 31, 32. Цяпер запішыце па адным балу за адказ "не" на астанія меркаваньні: 4, 5, 10, 11, 12, 14, 15, 20, 21, 24, 25, 27, 28, 30. Палічыце ўсе набраныя балы. Для высокай патрэбы ў дзецях умоўны паказчык 18 балаў і болей для мужчынаў, 20 балаў і болей – для жанчын.

# Прыгатаваньне кавы ў навукова-дасьледчых установах

**А.Кон**

Істотную частку часу ў лябараторыях і кабінэтах навукоўцы прысьвячаюць прыгатаваньню і спажываньню кавы (у Англіі перавага аддаецца гарбаце). Колькасьць напою і час,што траціцца на яго паглынаньне, вагаюцца ад аднаго кубка і пяці хвілінаў на дзень да некалькіх дзясяткаў кубкаў і некалькіх гадзінаў.

Вельмі востра адчуваецца неабходнасьць упарадкаваньня гэтай дзейнасьці. Гэтыя нататкі ўяўляюць сабой першую спробу абагульніць багаты досьвед, які прападае ў цяперашні час.

**Матэрыялы і мэтады**

Выкарыстоўваюцца ўсе наяўныя ў продажу гатункі кавы (за выключэньнем жолудавай і сынтэтычнай) тонкага, сярэдняга, нармальнага і грубага памолу, а таксама ў зернях. Варка робіцца ў сасудах са шкла, алюмінію ці нержавейнай сталі, у тым ліку ў лябараторных шклянках, агнястойкіх мэнзурках, цадзілках, аўтаклавах і (быў аднойчы выпадак) перагонных кубах. Хаця выкарыстоўваюцца і звычайныя кававаркі. Крыніцай энэргіі для павышэньня тэмпэратуры вады могуць служыць полымя газавай гарэлкі, электрычны ток, перагрэтая пара, выхлапныя газы рухавіка ўнутрага спальваньня і рэакцыя акісьленьня алькаголю (не карыстайцеся этэрам – ён выбуханебясьпечны). Летам выкарыстоўваюцца ахаладжальныя сыстэмы: халадзільнікі, маразільнікі, ледзяныя кубікі, сухі лёд і вадкае паветра.

Існуюць наступныя спосабы варкі:

а) **"Аматарскі"**. Каву грубага памолу высыпаюць у сырую халодную ваду, затым вада даводзіцца да кіпеньня. Асадак добра ўзбоўтваецца, і атрыманая суспэнзія разьліваецца па кубках. У тым, што атрыманы прадукт – сапраўды кава, можна пераканацца, хіба, толькі пры дапамозе фотамэтрычных вымярэньняў. Тое самае адносіцца і да адной крыху больш эканамічнай мадыфікацыі аматарскага спосабу, калі асадак адфільтроўваецца і захоўваецца для паўторнага выкарыстаньня.

б) **"Прафэсійны"**. Вада награецца да 99 С, дадаецца кава тонкага памолу (прыблізна 1,2 грамы на кубак), вадкасьць даводзіцца да кіпеньня і здымаецца з вагню. Цэнтрыфугаваць асадак неабавязкова. Атрыманы напой мае тонкі смак, які зрэдку атрымліваецца зьняць, дадаючы малако.

в) **"Экспэрт"**. Статыстычная апрацоўка вынікаў дэгустацыі дазволіла зрабіць важнае ўдасканаленьне: вада сьпярша даводзіцца да кіпеньня, потым полымя зьмяншаюць да мінімума, і ўваду засыпаецца кава (1 лыжка на кубак). Усё варыцца 10 хвілінаў, потым адстойваецца некалькі хвілінаў, і можна піць.

г) **"Экспрэс"**(трэба адрозьніваць ад прыведзенага ніжэй мэтада "Экспрэса"). Выкарыстоўваюць хуткараспушчальную каву ў спалучэньні з кіпячай ці гарачай вадой паводле інструкцыяў, напісаных на бляшанцы. Гэты спосаб мае дзьве перавагі перад усімі іншымі: хуткасьць і адсутнасьць знакамітага "цудоўнага водару сьвежай кавы", што дазваляе пазьбегнуць нашэсьця ахвотных з суседняй лябараторыі.

д) **"Экспрэса"**. Гэтая назва стала ўжо агульнай для паравай экстракцыі, калі перагрэтую пару прапускаюць праз спрэсаваны кававы парашок, а потым ахалоджваюць. Атрыманы кандэнсат мае колер і пах кавы. У лябараторных умовах можна выкарыстоўваць экстракцыйную ўстаноўку "Сокслет", аднак спосаб гэты вельмі працаёмісты для выкарыстаньня, за выключэньнем тых выпадкаў, калі ў Вас лішак тэхнічнага пэрсаналу, недахоп ідэяў і Вы ня можаце прыдумаць больш разумнага способу выкарыстаць устаноўку.






# Мы стаміліся. Шмат працуем?

Калі быць шчырымі самім з сабой, то кожны з нас прыгадае ў сваім жыцьці часы, калі даводзілася "ўкалываць" па-сапраўднаму, а стомы неяк не адчувалася. Аднекуль ішоў паток жыцьцёвых сілаў, і на гэтай хвалі лёгка пераадольваліся любыя цяжкасьці. Калі мы сёньня пачынаем скардзіцца адзін аднаму на стомленасьць, то канешне, разумеем, што выкліканая яна ня цяжкай фізычнай працай. Яшчэ на пачатку стагодзьдзя было даведзена, што цяжкая фізычная праца рэдка выклікае стомленасьць, якую нельга было б зьняць добрым сном ці адпачынкам.

Магчыма, нас моцна стамляе разумовая дзейнасьць? Амэрыканскія навукоўцы правялі экспэрымэнт з дасьледаваньнем крыві. Выявілася, што кроў, што праходзіць праз мозг, калі ён знаходзіцца ў актыўным стане, зусім не адлюстроўвае ягонага стамленьня. Наш мозг можа працаваць добра і хутка і ў пачатку, і ў канцы працоўнага дня.

*АДКУЛЬ ЖА НАШАЯ ЎСЕАГУЛЬНАЯ СТОМЛЕНАСЬЦЬ?*

Нашыя бацькі і дзяды жылі ў часы рэвалюцыяў і войнаў. Часы сьмяротныя. Вырашалі цяжкія задачы, што перад імі ставіла жыцьцё. Іншыя народы на зямлі ў розныя пэрыяды свайго жыцьця таксама перажывалі крызысы і адраджэньні. Але яны не стамляліся так, як мы, у канцы дваццатага стагодзьдзя. Мы цешым сваё самалюбства тым, што жывем у асаблівы час, што нашае пакаленьне перажывае асаблівыя ўзрушэньні і расчараваньні. Так. Але ў чым сапраўдная прычына нашых дэпрэсіяў, стомленасьці і хваробаў?

*ЖЫЦЬЦЁ – ГЭТА ЭНЭРГІЯ*

Каб зразумець, чаму ж нам не хапае сілаў, каб жыць і радавацца жыцьцю, нам варта было б пазнаёміцца з тымі законамі, што існуюць у прыродзе і адпаведна каторым адбываецца абмен энэргіяй на зямлі і ў Космасе. Нашае бачаньне сьвету грунтуецца галоўным чынам на той інфармацыі, якую мы атрымліваем пры дапамозе нашых пяці органаў пачуцьцяў.

На жаль, нашыя пачуцьці абмежаваныя, а значыць, абмежаванае і нашае бачаньне сьвету. Мы ўвесь час аточаныя хвалямі энэргіяў, якія выкарыстоўваюцца на радыё, тэлебачаньні, перамоўных прыстасаваньнях і многіх іншых прадметах сувязі. Мы не адчуваем прысутнасьці гэтых хваляў, таму што нашыя органы пачуцьцяў ня здольныя прымаць гэтыя сыгналы. Але гэта не азначае, што іх няма.

Тое самае адбываецца і з усімі прыроднымі чалавечымі сувязямі. Мысьляры і разумныя людзі старадаўнасьці зразумелі, што цьвёрдае матэрыяльнае жыцьцё зьяўляецца толькі энэргіяй – вібрацыямі пэўнай якасьці, якія нашы абмежаваныя пачуцьці ўспрымаюць у цьвёрдай форме.

Грэкі 2500 гадоў таму выказалі здагадку, што сьвет складаецца з атамаў, а атамы – энэргія ў руху. Гэта потым падцьвердзіла фізыка. Нам здаецца, што цела чалавека шчыльнае, цяжкае. Ілюзія ўзьнікае за кошт хуткасьці руху электронаў вакол ядра. Жыцьцё – гэта энэргія, нашае цела – згустак энэргіі. Калі мы працуем, думаем, размаўляем, сьмяемся, спрачаемся – мы выпраменьваем з сябе ў навакольную прастору энэргію пэўнага кшталту. Каб адчуваць сябе заўсёды бадзёрымі і жыцьцядзейнымі, мы павінны выдаткаваную энэргію аднавіць. Калі мы адчуваем сябе стомленымі, падаўленымі, значыць, мы яе, энэргію, не атрымліваем назад. Чаму ж так адбываецца?

*ЯК ЛЯТАЦЬ З ВЫКЛЮЧАНЫМ РУХАВІКОМ?*

За адказам накіруемся да... пэнсіянэра.

Напэўна, кожны з нас зьдзіўляўся тым пераменам, якія адбываюцца з нашымі знаёмымі, што выйшлі на заслужаны адпачынак. Яны патухаюць. Іх пакідаюць сілы і мары. А яшчэ ўчора яны былі, здавалася, невычарпальнымі.

Учора яны працавалі – вось у чым справа. На працы мы губляем энэргію. Узамен атрымліваем прызнаньне, павагу, падмацаваныя заробкам. Калі абмен раўнавартасны, мы адчуваем задавальненьне. Калі нам нечага не стае, мы гэтага задавальненьня ня маем. Узьнікае пачуцьцё крыўды, дасады, спустошанасьці. Мы, здаецца, выкладваемся ўсе, а



нам недаплаціці ці нас не заўважылі, не адзячылі. Навошта нам гэта трэба?

Словы, думкі, пачуцьці нясуць пэўную энэргетыку, праз іх у нас уліваюцца жыцьцядайныя сілы, калі яны выклікаюць у нас станоўчыя эмоцыі. Яны ж і адбіраюць у нас гэтыя сілы. Для нашага самаадчуваньня неабыякава, што гаворыцца вакол нас, якія словы гучаць, якія твары ў людзей, пахмурныя ці ўсьмешлівыя, якія эмоцыі выпялёхваюцца. Мы ўпітваем у сябе ўсё гэта, як губка, і тым самым ці папаўняем свае жыцьцёвыя сілы, ці губляем іх.

Пасьля выхаду на пэнсію людзі раптам пачынаюць адчуваць рэзкі адток жыцьцёвай энэргіі. Чалавек ня проста сыходзіць зь мінулага месца працы. Пры гэтым перарываецца нябачная энэргетычная пупавіна паміж ім і эгрэгарам таго прадпрыемства, дзе ён працаваў.

Эгрэгар – гэта згустак энэргіі ці энэргетычны цэнтар, утвораны ў выніку аб'яднаньня людзей, падобных родам думак. Людзі, што працуюць на нейкім прадпрыемстве, ня могуць ня думаць пра яго, мысьленна мы заўсёды зьвязаныя са сваёю працаю. Сваяцкія думкі лёгка прыцягваюцца ў прасторы адна да адной, утвараючы энэргетычны згустак. Чым болей людзей думаюць пра адное, тым большым і моцным становіцца эгрэгар. Ён, у сваю чаргу, сілкуе людзей, якія яго спарадзілі, жыцьцёвай энэргіяй.

Калі чалавек сыходзіць з працы ці пазбаўляецца яе, ён адключаецца ад былога эгрэгара. Яму патрэбны некаторы час, каб падключыцца да новага, стаць часьцінкай новага калектыву, жыць ягонымі праблемамі і клопатамі. Таму мы заўсёды адчуваем сябе няўтульна на новым месцы, нас літаральна цягне на старое месца.

Лягчэй пераадольвае крызыс той, хто хутка здолее знайсьці новую справу, якая б захапіла яго цалкам, будзь то мастацкая самадзейнасьць, турызм, разьвядзеньне кактусаў ці іншае хобі. Многія перакананыя атэісты становяцца раптоўна вернікамі, пачынаюць наведваць царкву, у іх зьяўляюцца новыя сябры. Такім чынам яны падключаюцца да моцнага рэлігійнага эгрэгара. Гэта забясьпечвае ім прыліў новых сіл.

Камуністычная партыя, патрабуючы ад нас адзінадумства, накіроўвала нашыя думкі і душэўныя парывы да адзінага эгрэгара. Мы працавалі на яго, зь яго бралі свае жыцьцёвыя сілы. І нам было лягчэй, чым зараз.

Калі народ жыве і абапіраецца на нейкую ідэю – нацыянальную, вызваленчую, духоўна-адраджэнчую,– ён можа зьвярнуць горы. Наш жыцьцёвы тонус доўга пітаўся з эгрэгара, створанага ідэяй рэвалюцыі, пабудовы новага грамадзтва. Мы былі адзінымі ў сваім імкненьні скінуць зь сябе фашысцкае іга, адзінымі ў жаданьні аднавіць разбураную вайной краіну. Зараз мы іранічна ўсьміхаемся, калі прыгадваем усе гэтыя дэманстрацыі, ударныя будоўлі, сацспаборніцтвы. Ня будзем даваць ацэнку гэтым зьявам – мы гэтым жылі. Нас гаіла ідэя, агульная мэта. А зараз нам жыць няма чым. Няма эгрэгара. Яго трэба стварыць агулам, усім грамадзтвам. Нарадзіць мэту, каторая ня толькі зьяднае нас, але і вылечыць.

Моладзь перакачвае сваю энэргію ў эгрэгар жорсткасьці і юру – і атрымлівае ад яго сілкаваньне. Гэта энэргія нізкай якасьці, яна разбурае. Тыя, хто ня можа жыць такой чорнай энэргіяй, спрабуюць падключыцца да духоўнага эгрэгара. А многія перакананыя: "Мы стаміліся, таму нам нічога нецікава". Але калі быць дакладным, то ўсё адбываецца наадварот: стома прыходзіць тады, калі страчваецца цікавасьць да любых зьяваў жыцьця.

*ЯК ВЫЙСЬЦІ СА СТАНУ СТОМЫ*

Падобныя станы перажывалі і перажываюць грамадзяне ня толькі Беларусі, але і краінаў, дзе добра разьвітая мэдычная навука. Там накоплены і абагульнены досьвед барацьбы з гэтымі зьявамі. Амэрыканцы, чые клінікі перапоўненыя хворымі, у якіх ярка выражаныя сымптомы хранічнай стомы, прыйшлі да высновы, што прычынай гэтага зьяўляецца амэрыканскі прагматызм, вельмі бедны пачуцьцямі. Яны раяць сваім пацыэнтам часьцей разьнявольвацца на працягу дня хаця б на некалькі хвілінаў. І мэдыкі дамагліся свайго.

Досьледы навукоўцаў з Калумбійскага ўнівэрсытэту паказалі, што калі людзі занятыя цікавай справай, то яны не адчуваюць стомленасьці. Стамляюць праграматычная мэта, сумная аднастайная праца. Як выснова: калі ты ня можаш знайсьці сабе цікавую працу, паспрабуйце з душой ставіцца да таго, што робіш.

Ангельцы папаўняюць свае жыцьцёвыя сілы ў клюбах па цікавостках. У краіне ўсемагчымых клюбаў правільна адчулі мэханізм абмену энэргіяй.

Японцы асабліва заклапочаныя павышэньнем уласнай працаздольнасьці. Яны робяць усё магчымае, каб не дапусьціць адтоку жыцьцёвых сілаў. Бо пры хвілінным абмене злобнымі і раздражняльнымі рэплікамі ў транспарце ці ў крамах губляецца энэргіі ня меней, чым пры гадзіннай працы. Таму ў Японіі незнаёмы чалавек, з каторым вам даводзіцца размаўляць ці абмяняцца позіркамі, абавязкова цёпла ўсьміхнецца.

Незвычайна прыязная атмасфэра пануе ў японцаў у кожным працоўным калектыве. Японцы цудоўна ведаюць, што найбольшы прыток жыцьцёвых сілаў дае сузіраньне прыгажосьці прыроды. Таму ня мысьляць для сябе выходны дзень бяз выезду за горад, на прыроду.

*ШТО РАБІЦЬ НАШЫМ СУАЙЧЫНЬНІКАМ*

Як агульная парада – спыніць няроўную барацьбу з рэчаіснасьцю. Лепш прымаць жыцьцё такім, якім яно ёсьць на самой справе. Калі Вы палюбіце жыцьцё, яно таксама палюбіць Вас. Вы будзеце адчуваць сябе здаровымі і энэргічнымі, калі здолееце атрымліваць ад свайго атачэньня любоў, прыязнасьць, спагаду. Але такога кшталу энэргію Вы атрымаеце толькі тады, калі пачнеце выпраменьваць зь сябе такую ж энэргію цёплай любові да навакольнага сьвету і людзей, сярод якіх Вы жывяце. Іначай абмену не атрымаецца.

У прыродзе пануе закон, які сьцьвярджае: падобнае прыцягвае падобнае. Ня трэба крыўдзіцца, што вакол Вас чэрствыя, бяздушныя людзі. Кожны знаходзіцца ў сваім асяродзьдзі. Зьменіцца Ваш унутраны сьвет – зьменіцца і Вашае асяродзьдзе.

Нашая стомленасьць, што пагражае перайсьці ў хранічную, выкліканая ня столькі адсутнасьцю вітамінаў, экалягічна-брудным навакольлем, колькі агульнай раздражняльнасьцю. Мы выплёскваем зь сябе мора адмоўных эмоцыяў, а потым задыхаемся ў гэтай атмасфэры.

Зрабіце крок насустрач жыцьцю, усьміхніцеся стрэчнай жанчыне, незнаёмаму мужчыне, пажоўкламу лісьцю на дрэвах, восені – і вашае самаадчуваньне пачне паляпшацца.

Прапануем практыкаваньні для зьняцьця стомленасьці

**ПРЫКТЫКАВАНЬНЕ №1**

*Вы бярэце сьвячу, сядаеце насупраць яе на адлегласьці 2-х мэтраў.*

*Пазыцыя: сядзець у позе дза-дзэн (поза на кукішках), 10-15 хвілінаў. Канцэнтраваць погляд на кончыку полымя і заплюшчваць вочы. Мэдытацыя на сьвячу вельмі добра аднаўляе працаздольнасьць, здымае стомленасьць вачэй, служыць прафіляктыкай блізарукасьці, здымае чужыя біяпалі, аднаўляе нэрвовую сыстэму.*

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ №2**

*"Вызваленьне ад заплечніка"*

*Вы ўвайшлі ў кватэру, зачынілі ўваходныя дзьверы. Стоячы каля дзьвярэй, у думках скідвайце зь сябе "заплечнік", у каторым скапіліся адмоўныя эмоцыі, канфлікты на працы, транспарце і г.д. Пакіньце гэты заплечнік каля ўваходу ў кватэру.*

*Займайцеся новымі справамі і ня думайце пра цяжкі заплечнік. Ён Вам зусім непатрэбны. Ён шкодны.*

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ №3**

*Для выкананьня практыкаваньня Вы апранаеце трыко (чыстае), пасьцілаеце дыванок ці падсьцілку.*

*Першапачатковае становішча: Вы сядаеце ў позу дза-дзэн (поза на кукішках). Затым разводзіце калені і нахіляецеся наперад. Рукі знаходзяцца сьпераду тулава. Паклалі галаву на выцягнутыя рукі і расслабіліся. Мір, дабро, спакой. Дыханьне роўнае, спакойнае. Практыкаваньне выконваецца 3-5 хвілінаў. Вельмі добра здымае стомленасьць, аднаўляе нэрвовую сыстэму.*

**Марыя Філіповіч**

*(Марыя Філіповіч. Мы стаміліся. Круг\\№1. 1996.)*

# НЕЗАВЕРШАНАСЬЦЬ ГІСТОРЫІ

*З нагоды канфэрэнцыі «**ЧАС ДЫСЫДЭНТАЎ** — спатканьне ўдзельнікаў і дасьледчыкаў апазыцыйных рухаў савецкага блёку ў Эўропе», якая адбылася ў апошні тыдзень лістапада ў Падкове Лесьнэй пад Варшавай*

Заканчэньне. Пачатак у №35.

## Дэфініцыя

Пошукі былымі дысыдэнтамі сваёй ролі ў сёньняшнім жыцьці, спробы адказаць на пытаньне: ці вытрымала выпрабаваньне часам тая сыстэма каштоўнасьцяў, у імя якой дзейнічала былая апазыцыя, — выяўляюцца ў дыскусіі наконт значэньня тэрмінаў ДЫСЫДЭНТ і ДЫСЭНТ. Гэтыя тэрміны параўноўваюцца найчасьцей з тэрмінам АПАЗЫЦЫЯ. Парыжанін Аляксандар Гінзбург прапанаваў такое разьмежаваньне гэтых двух паняткаў: апазыцыяй можна называць легальную дзейнасьць нязгодных з палітыкай ураду, апазыцыя выкарыстоўвае парлямэнцкія мэтады барацьбы ды мае магчымасьць выказваць свае погляды праз мэдыі; дысыдэнты ж вымушаныя дзейнічаць ва ўмовах таталітарнага грамадзтва й пазбаўленыя аховы з боку закона. Трэба адзначыць, што палякі для свайго руху мірнага супраціву выкарыстоўваюць тэрмін апазыцыя, румыны ўвялі ва ўжытак вызначэньне АПАНЭНТЫ. Прыдатнасьць таго ці іншага тэрміну ў дачыненьні да Беларусі варта будзе прааналізаваць ніжэй, пры параўнаньні пэрыядызацыяў дэмакратычных рухаў у розных краінах.

Тэрміны ДЫСЫДЭНТ і ДЫСЭНТ выкарыстоўваюць у дачыненьні да пэрыяду 1950-80-х гадоў для пазначэньня любой індывідуальнай ці групавой незалежнай грамадзкай актыўнасьці, якая разыходзілася з вызначанымі ўладамі формамі сацыяльных паводзінаў, якая не ўхвалялася ды перасьледавалася. Праявы апазыцыі да рэжыму былі вельмі разнастайнымі ў кожнай з краінаў, што знаходзіліся пад камуністычным панаваньнем. Таму й тэрмін дысыдэнцтва зьяўляецца не ўнівэрсальным, а адлюстроўвае, хутчэй, пэўную традыцыю й пэўныя прынцыпы гэтай апазыцыйнасьці. Можна сказаць нават, што дысыдэнцтва ў паўнаце сваіх характарыстыкаў зьяўляецца клясычна расейскаю (ці, яшчэ дакладней — маскоўска-пецярбурскаю) зьяваю. Адпаведна, менавіта ў расейскіх дасьледчыцкіх колах створаная найбольш поўная дэфініцыя дысэнту, які разглядаецца як сукупнасьць грамадзкіх рухаў ды індывідуальных учынкаў, блізкіх паводле наступных крытэрыяў:

— паводле асноўных прынцыпаў (негвалтоўнасьць, галоснасьць, апэляцыя да закону);

— паводле формаў грамадзкай актыўнасьці (стварэньне непадцэнзурных тэкстаў, аб'яднаньне ў непалітычныя незалежныя грамадзкія арганізацыі, зрэдку — публічныя акцыі);

— паводле інструмэнтару дзейнасьці (пэтыцыі, якія адрасоўваліся ў афіцыйныя савецкія інстанцыі; адкрытыя лісты-апэляцыі да грамадзкае думкі; распаўсюджаньне інфармацыі праз «самвыдат» ды заходнія мэдыі).

У 1970-х — пачатку 1980-х гадоў такі спосаб існаваньня грамадзянскай апазыцыі дамінаваў на сацыяльнай сцэне ў Расеі.

## Праваабарончыя рухі

Праца ў рамках Грамадзкага Архіву Найноўшае Гісторыі толькі распачынаецца, але ўжо можна казаць пра тыя формы існаваньня паралельнага беларускага грамадзтва за часамі савецкага таталітарызму, што вызначалі мірны беларускі супраціў. І гэты супраціў значна адрозьніваўся ад расейскага дысэнту.

Найперш розьніца выявілася ў ролі нацыянал-дэмакратызму ў фармаваньні вытокаў незалежнага беларускага грамадзтва. Пасьля XX зьезду ў Расеі наступае пэрыяд адноснае палітычнае лібэралізацыі. У Беларусі ж, пасьля пэрыяду існаваньня ўзброенай антысавецкай апазыцыі ў другой палове 40-х гадоў, працягваўся наступ на нацыянальную культуру, узмацняліся напады на вернікаў, зь бібліятэкаў канфіскоўвалася «палітычна шкодная літаратура» (глядзі Кроніку дэмакратычнай апазыцыі і палітычных рэпрэсіяў у Беларусі 1953-88 гадоў — «НН» №32, 1996). Праводзіліся публічныя кампаніі супраць нацыяналістычных поглядаў беларускіх гуманітараў, адбываліся судовыя працэсы, на якіх паводле абвінавачаньня ў нацыяналізме прысуджаліся вялікія тэрміны — да 7 гадоў, што было досыць рэдкай зьяваю для таго «часу адлігі».



У адпаведнасьці з пэрыядызацыяй дысыдэнцкага руху Расеі, распрацаванай Людмілай Аляксеевай і Аляксандрам Даніэлем, гады 1956-65 складаюць так званы пэрыяд Перадгісторыі праваабарончага руху — цэнтральнай кампанэнты савецкага дысэнту. Гэта быў час, калі лібэральна арыентаваная расейская інтэлігенцыя спрабавала адваяваць для сябе мінімальна свабодную ад дзяржаўнага дыктату прастору ў рамках сыстэмы —праз спробы выпуску літаратурных зборнікаў і альманахаў, паэтычныя вечарыны ў Політэхнічным музэі, выставы авангардыстаў на Манэжы...

Неафіцыйная сацыяльная актыўнасьць у Беларусі таксама выяўлялася ў дзейнасьці незалежных мастацкіх асяродкаў, у асобных праявах адстойваньня вернікамі сваіх правоў, у спробах неартадаксальнай культурніцкай дзейнасьці (часам, у рамках афіцыйна дазволеных формаў — варта ўзгадаць асобныя публікацыі Аляксея Кулакоўскага й Барыса Сачанкі ў «Маладосьці» і «ЛіМе», розгалас ад іх, а таксама эпапею Васіля Быкава ў сярэдзіне 60-х гадоў). Беларуская найноўшая гісторыя ведае прыклады праваабарончай дзейнасьці, выступы супраць выкарыстаньня псыхіятрыі ў палітычных мэтах, пратэсты супраць савецкай акупацыі Чэхаславакіі. Але ў чым галоўнае адрозьненьне супраціву ў Беларусі ад дысыдэнцкага руху ў Расеі, дык гэта ў тым, што ўласна праваабарончы рух у Беларусі ня склаўся. Беларускім інтэлігентам было больш складана, чым маскоўскім дысыдэнтам, бо першым, апроч сваіх чалавечых правоў, прыходзілася адстойваць нацыянальныя інтарэсы. Больш адпаведнымі для беларускай сытуацыі зьяўляюцца ўкраінскія прыклады, дзе Ўкраінская Хельсынская Група сканцэнтравалася на нацыянальнай праблеме і самаўхілілася ад праблемаў рэлігійных, габрайскіх, ад праблемаў крымскіх татараў. Адрозьненьне ўкраінскай сытуацыі — там была ўтвораная Хельсынская група, што ўздымала ступень арганізаванасьці ўкраінскага супраціву ды рабіла ягоны голас больш чутным у сьвеце. Беларускае грамадзтва ня мела сілаў на публічныя апазыцыйныя дзеяньні.

Адсутнасьць праваабарончага руху драматычна паўплывала на наступную, сучасную гісторыю Беларусі. Заніжанасьць агульнадэмакратычных стандартаў, малая агучанасьць праблематыкі правоў чалавека прывялі да таго, што паводле гэтых стандартаў сёньня Беларусь значна саступае й Расеі, і Ўкраіне. Праваабарончы рух у Беларусі толькі фармуецца, і цяпер, калі паступова зьнікае публічная палітыка, ён можа стаць адным з галоўных інструмэнтаў самаабароны беларускага грамадзтва.

Вылучаючы асобныя кампанэнты беларускага супраціву ў пэрыяд 1953-88 гадоў, неабходна адзначыць існаваньне структурных сувязяў паміж рознымі кампанэнтамі супраціву. Найбольш шчыльна былі ўзаемазьвязаныя паміж сабою нацыянал-дэмакратызм і незалежныя мастацкія асяродкі. Часам гэта выяўлялася структурна. Найбольш яркі тут прыклад — гурток «На Падлашку», які быў утвораны ў другой палове 60-х гадоў навуковай, творчай і студэнцкай моладзяй і які зьбіраўся на пасяджаньні ў майстэрні мастака Яўгена Куліка.

З нацыянал-дэмакратызмам былі зьвязаныя й прыклады дысыдэнства, якія мелі месца ў Беларусі. Варта нагадаць, што свой чарговы «тэрмін» Міхась Кукабака атрымаў пасьля зачытваньня на «Нямецкай хвалі» ягонага нарыса «Скрадзеная Бацькаўшчына», прысьвечанага русіфікацыі Беларусі.

Можна сьцьвярджаць, што цэнтральнае месца ў беларускім супраціве таталітарнаму рэжыму займаў нацыянал-дэмакратызм, а ў расейскім дысыдэнстве — праваабарончы рух. Гэтак розныя асновы апазыцыйных грамадзтваў у Беларусі й Расеі прывялі да рознай пэрыядызацыі супраціву ў Беларусі й дысэнту ў Расеі.

## Розныя пэрыядызацыі

Існаваньне розных апазыцыйных напрамкаў у Беларусі ўкладаецца ў цэльны пэрыяд — ад 1953 году (пачатку вяртаньня палітвязьняў зь лягераў) да канца 1988 году, пасьля якога дзейнасьць апазыцыі набыла адкрыты масавы характар і магла ўжо значна ўплываць на грамадзкія працэсы ў Беларусі. Нават 1986 год — год пачатку перабудовы не зьяўляецца такой важнай вехаю, бо ў Савецкай Беларусі сацыяльна-палітычная атмасфэра была менш рухомая, а беларускае грамадзтва сьвядома заганялася ў статус правінцыйнага, дзе менш адчувальныя мадэрнізатарскія павевы з цэнтру.

Расейскі дысэнт падаецца сьветапоглядна больш кампактным, што дазваляе вылучыць у ім некалькі храналягічна вузкіх этапаў. Апроч ужо названай Перадгісторыі называюць наступныя этапы:

— зараджэньне праваабарончага руху (1966-67);

— станаўленьне (1968-69);

— пашырэньне (1970-72);

— крызыс і яго пераадоленьне (1973-74);

— «Хельсынскі пэрыяд» (1975-79) — пік дысыдэнцкай актыўнасьці ў СССР;

— заняпад (1980-84).

Як мяркуюць расейскія дысыдэнты, да заняпаду дысыдэнцтва прывяло найперш рэзкае зьніжэньне грамадзкай падтрымкі. Натуральная сацыяльная база дысыдэнтаў — вальнадумная частка інтэлігенцыі — ставілася да актывістаў руху з супярэчлівымі пачуцьцямі ад павагі да скепсысу. Але шматгадовая актыўнасьць праваабаронцаў у пэўным сэнсе дасягнула сваёй мэты — у другой палове 80-х гадоў грамадзкая думка, прынамсі, актыўная частка расейскага грамадзтва, калі не прыняла, дык прызнала каштоўнасьці й крытычныя ўстаноўкі дысыдэнтаў. Калі гэта так, дык дысыдэнцтва на праваабарончай аснове павінна было сысьці са сцэны, бо яно выканала сваю гістарычную задачу. На зьмену дысыдэнцкай эпосе амаль адразу ж прыйшла перабудова, што наўрад ці можа разглядацца як простае супадзеньне.

І вось аказваецца, што нягледзячы на існаваньна такога татальнага монстра як СССР, беларускае грамадзтва ўжо тады мела сваю, непадобную на іншых генэалёгію й гісторыю. Многія праблемы гэтай генэалёгіі й гісторыі мы мусім вырашаць цяпер. Унівэрсальныя прынцыпы праваабаронцаў набываюць для Беларусі асобнае гучаньне. У тым ліку таму, што адпаведны этап у Найноўшай гісторыі Беларусі ня быў пройдзены.

**Алег Дзярновіч**

# Kalandar

## 9 śniežnia

Naradzilisia: anhielski paet John Milton (1608-74), jaki ŭ časie napisańnia svajoj epapei «Stračany raj» aślep, a atrymaŭ za svoj tvor hanarar 10 funtaŭ; Claude Louis Berthollet (1748-1822), francuski pijaner sučasnaj chimii; biełaruski paet Maksim Bahdanovič (1891).

## 10 śniežnia

Naradziŭsia biełaruski mastak Ferdynand Ruščyc (1870).

## 11 śniežnia

Naradzilisia: francuski kampazytar Hector Berlioz (1803-69) i rasiejski piśmieńnik Alaksandar Sołženicyn, laŭreat Nobeleŭskaj premii ŭ 1970 h.

## 12 śniežnia

U hety dzień... naradzilisia: francuski piśmieńnik Gustave Flaubert (1821-80) i narveski mastak Edvard Munch (1863-1944).

## 13 śniežnia

U hety dzień... u 1981 h. u Polščy było uviedzienaje vajennaje stanovišča.

Naradziŭsia niamiecki paet Heinrich Heine (1797-1856).

## 14 śniežnia

U hety dzień... u 1911 h. narveskaja ekspedycyja Roalda Amundsena pieršaja ŭ śviecie dasiahnuła Paŭdniovaha Polusu, apiaredziŭšy brytanskuju ekspedycyju kapitana Roberta Scotta na tryccać čatyry dni.

U 1918 h. upieršyniu ŭ Vialikabrytanii žančynam było dazvolena ŭdzielničać u parlamenckich vybarach. Pieršaj žančynaj-deputatam stała hrafinia Kanstancyja Markievič z partyji Sinn Feinn z akruhi St. Patrick u Dublinie. Što praŭda, jana nie zaniała svajho miesca ŭ pałacie pradstaŭnikoŭ, bo ŭ hety čas za svaju palityčnuju dziejnaść była źniavolenaja ŭ turmie Holloway.

U 1938 h. savieckija ŭłady rasstralali biełaruskaha paeta Michasia Čarota.

Naradziŭsia francuski astrolah Michel de Nostredame (1503-66), prazvany Nastradamusam.

## 15 śniežnia

U hety dzień... naradzilisia: rymski imperatar Neron (37-68); francuski inžyner Gustave Eiffel (1832-1923), aŭtar prajektu słavutaj viežy jahonaha imia ŭ Paryžy; Ludvik Zamenhof (1859-1917), lekar, palihlot, vynachodnik movy esperanto; biełaruski litaraturaznaŭca Šciapan Aleksandrovič (1921) i biełaruski palityk, eks-śpikier parlamentu Stanisłaŭ Šuškievič (1934).

# Мастацтва

Алесь Белы

## Я БУДУ ПАМІРАЦЬ

Я буду паміраць...

Буду паміраць увосень, калі адыходзіць летняя весялосьць; буду паміраць ноччу, цёмнай і ў той жа час крыху белаватай, нават бліскучай. Будзеісьці дождж, і я буду плакаць, і цяжка будзе адрозьніць мае сьлёзы ад кропляў дажджу.

Гэты дождж будзе змываць мяне, і мне цікава будзе назіраць, як паволі расчыняецца ў вадзе маё цела. Апошнім застанецца сэрца, у якім — каханьне, нянавісьці, маё гора і радасьці, мая памяць пра ўсё...

А потым зьнікне жыцьцё, толькі на зямлі застанецца ляжаць нешта дзіўнае і нязвыклае: ці мяккае, як камячок ваты, ці маленькае і цьвёрдае, але ёмістае, як мікрасхема ў кампутары.

Мая душа. Яна крыху пачакае, а потым імгненна разьляціцца на пылінкі, малекулы, атамы, на драбнейшыя часьцінкі, ад аднае спробы ўявіць якія становіцца балюча.

І гэтыя часьцінкі будуць усюды: у кожнай кроплі паветра, ля кожнага чалавека. І ўсе будуць глядзець на мяне, не пазнаючы і спрабуючы адмахнуцца ад мроі. І ўсе будуць дыхаць мною, не пазнаючы майго паху.

А я буду слухаць усе размовы і буду разумець усе мовы сьвету. Я буду глядзець, як Яна кахаецца зь іншым, як мае сябры выкідаюць мае фатаграфіі. Але ня будзе крыўды. Я буду нават рады, што яны хочуць пра мяне забыцца.

І калі ўсе выкінуць успаміны пра мяне на сьметнік, мне стане нецікава назіраць людзей, і душа зноў зьбярэцца ў камячок ці мікрасхему. І я буду ляжаць на самай вяршыні якой-небудзь гары і глядзець на неба, сачыць аблокі. І мне будзе лёгка.

Я ўсё-ткі буду жыць...

## ВОСЕНЬ

Сьцяна. Столь. Сьцяна. Акно. Восень. Лісьце. Людзі. Шмат лісьця, яшчэ больш людзей. Гук. Сьвятло. Колер. Два колеры —жоўты і шэры. Лісьце і людзі. Адны ляжаць, чакаючы, калі вецер падыме іх. Другія робяць выгляд, што самі могуць ляцець, але таксама чакаюць ветру.

Боль у вачах. Сьвет — ці чорна-белы, ці жоўта-шэры. Усё адно сумна. Усё адно надакучыла.

Людзі. Лісьце. Восень. Акно. Сьцяна. Столь. Сьцяна.



## ТЫ

Ты... Ты любіла суботнія вечары. Ты хадзіла па вуліцах і шукала мяне. І знайшла. Падняла з бруду, адразу пазнаўшы мой твар. І пакахала. І прымусіла мяне кахаць цябе і сябе. Ты часта некуды зьнікала, але заўжды ўсё ж заставалася каля мяне.

Памятаеш, аднаго разу я сядзеў на падлозе і маляваў, а ты глядзела мне ў сьпіну, абдымаючы мяне поглядам. Тады я намаляваў цябе, Найлепшае з намаляванага мною.

Твая мара — ружа, чорная і з шыпамі. Твая мара — чорны пакой. Тваёй марай быў я. Я пафарбаваў твой пакой чорнаю фарбай, падараваў табе чорну ружу. Навошта я гэта зрабіў? Мары ніколі не павінны зьдзяйсьняцца.

Ты памерла бяз мары. Ты проста зьнікла, забраўшы маю душу і памяць пра цябе. І я памёр. Ня мог жыць безь цябе і безь сябе.

Дзьве сьмерці — ці не зашмат для нас дваіх?

Руслан Равяка

## КІГІКАНЬНЕ ВЕРАБ'ІНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Мы зьнішчылі храм, што стаяў на нашым шляху. Сьвятар спрабаваў бараніць бажніцу, і мы ўтапталі яго ў гразь і тысячамі ног прайшліся па ім. На дзіва ўсім, ён здолеў падняцца і, акрываўлены, абадраны, падыбаў за намі. Ніхто яго не чапаў, бо ён быў наш!

Потым мы заўважылі селішча... Некалькі драўляных хатак былі спаленыя, палова жыхароў рушыла адразу ж моўчкі з намі, іншыя ж тамтэйшыя засталіся на папялішчы назаўсёды.

Пасьля нядоўгай аблогі адчынілася брама замку. Нас было шмат: мы лёгка паразьбівалі старажытныя муры. Гаспадар цьвердзі і ягоныя паслугачы засталіся матляцца на папругах, прывязаных да галінаў ссохлых ліпаў.

Ноч прыйшла да нас раптоўна, і недзе трэ было атабарыцца дый перадыхнуць крыху. Мы прыпыніліся на сялянскіх гонях. Яшчэ адзін дзень згінуў у гісторыю, пакінуўшы нам добры вынік.

Раніцою мы пайшлі далей. Па абедзе сярод нас выявілі аднаго разумніка, што цішком займаўся апісаньнем нашага быту. Дзеля гісторыі, дзеля нашага ўзвышэньня, дзеля знакамітасьці. Дзякуючы сваёй авантуры, гэты пісьменьнік спачыў у нашых страўніках разам зь іншымі 34 асьветнікамі, злодзеямі, шызікамі, утойвальнікамі ўчорашняй ежы, уцекачамі, заможнымі супляменьнікамі, грэшнікамі, творцамі ды іншымі прыстойнымі і ня вельмі людзьмі, што туляліся з намі.

Нам не патрэбныя лідары, асьвета, культура. Мы не шукаем вядомасьці, мы не жадаем выдзяляцца між іншымі. Мы заўжды пасярэдзіне. Усё вышэйшае і ніжэйшае павінна зьнішчацца, бо яно супраць нас і не дзеля нас.

Мы спажываем тое, што здабудзем, цягаемся тамака, дзе не былі, зьбіраем тых, што далучаюцца...

Сяржук Сокалаў

## СУЧАСНЫЯ ПРЫПЕЎКІ



* * *

Тваіх залётаў подых фарысэйскі,
Твае намёкі – кніжнага нутра...
Індыйскі дапаможнік па-расейску
Крычыць, што ён для тых,
«Каму с утра».

А мне пляваць на Індыю з Расеяй
У нас свая разьюшаная плоць!
Я лепш цябе па-нашаму засею
І не «с утра», а зьвечара. Прыходзь!

### БЮСТЫ

Сонца грае на расе,
Конь заліўся потам,
Баба бюстамі трасе
Ў крапіве за плотам.
То ў развал, а то ў супол,
То на дол, то ў гору
Скачуць бюсты, ад прыпол
Бліскае атворам.

Позірк дзікі, задубелы,
Зад ружовы, тлусты.
Адзін шэры, другі белы,
Вось такія бюсты!

Што ў атворы навіны?
Ён – не таямніца –
Паабапал два сьцягны,
Навакол – спадніца.
Бюсты! Во дзе адкрыцьцё!
Во дзе бляск тавару!
Ловіць бюсты, як дзіцё,
Дзядзька тупатвары...

А яны гарцуюць сьмела
Па шляхах распусты.
Адзін шэры, другі белы,
Вось такія бюсты!



Старшынёвая жана –
Лёс загнаў эліту! –
То ж лякуецца яна
Ад радыкуліту!
Тупатвары проста спаў
У кустох п'яненькі...
А бяльмо пракалупаў –
Ля вушэй каленькі.

Па-над імі горы цела,
Качаны капусты:
Адзін шэры, другі белы,
Вось такія бюсты.

Хто там першы не стрываў? –
Цяжка даць адказу –
Толькі юр павырываў
Крапіву-заразу...
Мы сьпявалі пастараль,
Хлусілі бязь меры...
– Дзе мараль?
– А, што мараль
Пры такім памеры?

Калі цела забюсьцела,
Вам навяжуць густы
Адзін шэры, другі белы,
Во-о-ось такія бюсты!

* * *

Не даю для хлопцаў візу
Я ні зьверху, і ні зьнізу,
Бо паўсюль, дзе мы ляжым,
Ёсьць бязьвізавы рэжым.

### ЧЛЕНЕНДЖЭР

Не імпатэнт і не кастрат!
Мне страх і сорам – перажыткі,
Як ёсьць спушчальны апарат
Для шматразовага ужытку!

* * *

Усё, што у жанчын вісіць,
І што ў мужчын вісіць – таксама
Павінен кожны ўмець насіць...
Ня ўмее кожны! Вось дзе драма!

### РАМАНС

*муз. і сл. народныя*

А мы друг друга абажалі,
Гулялі ў гай і на ставы,
І струны сэрца так дрыжалі,
Калі міне кранáлі вы.

Но вот прышло другое ўрэмя:
Вазьнік в таварах перабой,
А ў нашай жызьненнай пазме
Мы распрашчаліся с табой.

Такая ў лёсу прадрашэнка,
Такая муць, такая гразь...
Ішчо атвеціт Лукашэнка
За нашу прэрванную сьвязь!

# ГОРАД-

Юры Андруховіч

Наўрад ці кароль Даніла Галіцкі, заснавальнік Львова, ведаў, што мясцовасьць, выбраная ім для гораду, якому наканавана было стаць самым дзівосным з гарадоў Усходу Эўропы, мае адну цікавую геаграфічную ўласьцівасьць.

Памятаю, у якое амаль пабожнае і проста дзіцячае захапленьне я прыйшоў, калі даведаўся пра яе. Гэтая ўласьцівасьць здалася мне надзвычай сымбалічнай, а значыць, невыпадковай. Страла, выпушчаная з каралеўскага лука ў сярэдзіне XIII ст., трапіла ў яблычак.

Сутнасьць дадзенай уласьцівасьці заключаецца ў тым, што па тэрыторыі гораду Львова, па ягоных бадай што дазваньня забрукаваных і забудаваных узгорках праходзіць водападзел двух басэйнаў: басэйну Балтыйскага і басэйну Чорнага мораў. Найвышэйшы пункт незаўважнага сёньня хрыбта знаходзіцца за некалькі соцень мэтраў ад галоўнага чыгуначнага вакзалу. Усе воды на поўнач ад гэтага пункту належаць Балтыцы, на поўдзень — Чорнаму мору. Месца перасячэньня дзьвюх восяў, што дзеляць прастору на ўсход-захад і поўнач-поўдзень, непазьбежна стала ростанямі гандлёвых шляхоў, а з прычыны гэтага таксама пунктам скрыжаваньня найразнастайнейшых уварваньняў: духоўных, палітычных, ваенных, маральных і моўных. Нямецкая назва гораду — Лембэрг — азначае не зусім тое самае, што лацінская Леопаліс альбо санскрыцкая Сынгапур. У гэтым таксама можна ўбачыць знак «водападзельнасьці» — прыналежнасьці адначасова да шматлікіх культураў і неналежнасьці ніводнай зь іх —гэтага гораду, які ад выдатнага міжваеннага раманіста Юзафа Рота атрымаў назву «гораду сьцёртых межаў» і які цяпер, каб пазьбегнуць публіцыстычных спакусаў, мы ня станем называць «горадам створаных межаў».

Замест гэтага лепей зьвярнуцца да прынцыпова іншай мэтафары, не да водападзелу (таго, што падзяляе), а да таго, што злучае. Для палітыкаў гэта стала б падставай для размовы пра балтыйска-чарнаморскі саюз, але зь мяне палітык абы які, а шчыра кажучы, дык і ніякі. Мяне вабяць зусім іншыя думкі ды словы. Прыкладам, львоўская гарадзкая каналізацыя, рэчка Полтва, па якой яшчэ трыста гадоў назад прыплывалі ветразьнікі з Гданьску ды Любаку; у яе водах голымі рукамі лавілі вужападобных атлянтычных вугроў. Мінула акурат сто гадоў ад часу, калі зьнявечаную раку запхнулі пад зямлю. У гэтым сэнсе Львоў зьяўляецца абсалютнай супрацьлегласьцю Вэнэцыі. Яму так моцна бракуе вады, што жыхары старых кварталаў мараць аб прышэсьці Таго, Хто ператварыў бы віно ў ваду. Апагею гэтая сьпякотная драма дасягае ў жніўні.

У гэты час адзіным паратункам застаюцца навакольныя лясы й паркі са сваёй старажытнай, яшчэ каралеўскай флёрай і таямнічымі гаючымі крыніцамі. Зрэшты, іх — і лясоў, і паркаў, і крыніцаў — усё меншае. Гэта подых Поўдня.

Архітэктурная тапаграфія Львова — хутчэй лацінская, хутчэй раманская, хутчэй барочная. У савецкія часы ў Львове здымалі фільмы пра Парыж ці Рым. Калі ж дзеяньне фільму адбывалася ў Лёндане альбо ў Стакгольме, яго здымалі ў Рызе ці ў Таліне.

Львоў набрыняў міжземнаморскай культурай. Крылаты леў Сьв. Маркі на палацы вэнэцыянскага консула Бандынэлі на Рынку, як і флярэнтыйскае падвор'е ці цудоўная смарагдавая coppola касьцёла дамініканаў, не здаюцца нечым экзатычным на гарадзкой мапе. Ад пачатку XVI ст. аблічча гораду ў значнай ступені стварылі ўсякага кшталту італьянскія выгнаньнікі, вандроўнікі, валацугі, авантурысты, акрыленыя ідэямі рэнэсансавага гуманізму, эпігоны

*Юры Андруховіч (нар. у 1960) — паэт, празаік і эсэіст. У 1987 годзе разам зь Віктарам Небаракам і Аляксандрам Ірванцом заснаваў літаратурнае аб'яднаньне «БуБаБу». Вершы, раманы («Рэкрэацыі», «Маскавіяда. Раман жахаў»), эсэ Андруховіча перакладаліся на ангельскую, нямецкую, францускую, польскую, расейскую ды іншыя мовы.*

# ненароджаных

Мы — жах асьветнікаў ды інтэлектуалаў! Мы жывем паводле свайго закону. Кожны можа ня больш, чым мы, але й ня менш. Кожны вырашае сам: з намі альбо бяз нас.

Мы — зьдзічэлы натоўп! Але ўжо колькі гадоў нас ня меншае —значыцца, праўда з намі!

Сяргей Конан

## ПАДНЯЦЦА З КАЛЕНЯЎ

Ці спрабавалі вы падняцца з каленяў? Проста ўзяць і ўстаць на ногі. Агледзецца вакол і зразумець: гэта так проста — устаць з каленяў. Але паспрабуйце ня ўпасьці на іх, калі ўсе навокал стаяць на каленях. Ці хочацца вам знайсьці падтрымку? Вы глядзіце, шукаючы пагляду падтрымкі, а яго няма. Вакол, быццам сьсечаны лес, толькі чужыя патыліцы. Недзе там, удалечыні, нехта, можа, робіць тое самае, што й вы. Але немагчыма сустрэцца позіркамі. Толькі адчуваньне: я не адзін. Тыя, што побач, ня могуць зразумець. І пытаюць, маўкліва пытаюць: навошта? Як навошта? Адчуць сябе вольным... Можна ісьці і нічога не баяцца. Можна дыхаць вальней...

Тупы і балючы ўдар у сьпіну. Я прачнуўся. Усё толькі сон? Так, я стаю на каленях. Адразу ж спрабую згадаць і як мага мацней запомніць, як трэба стаяць на нагах. Я раблю так кожнае раньне. Запамінаю і забываю, каб новае ночы ўсё ўбачыць і пражыць ізноў: устаць, зрабіць некалькі крокаў, уздыхнуць і... прачнуцца.

Усе ночы, як і ўсе дні, падобныя ўнутры.

Невядома, колькі мы стаім на каленях. Я — з нараджэньня. У мяне, як і ў кожнага, сваё месца. Такое нашае жыцьцё. Лічыцца, што мы й стаяць ужо ня можам, ногі не прыдатныя на гэта. Праўда ці не, ня ведаю, але, як і астатнія, ні разу ня бачыў, каб нехта стаяў на нагах. Стаяць нельга, бо забаронена. Кім? Ізноў ня ведаю адказу. Проста нельга, і ўсё.

Некаторыя называюць наш стан карай. Другія знаходзяць у ім сэнс нашага агульнага існаваньня. Вы зьдзіўленыя тым, што мы думаем. А што яшчэ можна рабіць? Думаць і ствараць ідэі апраўданьня, каб потым жыць імі. Мяркуюць, што датуль, пакуль мы ў такім становішчы, нам ня трэба нічога, апрача сну. І таго вельмі кароткага.

Я часамі спрабую ня спаць і тады бачу ноч, цемру, і ўяўляю, што йду наперад. Але ж уначы мы павінны спаць і бачыць адзін і той самы сон, бачыць, як стаім днём на каленях. Ніхто ня дзеліцца сваімі снамі, дый навошта, калі ўсе павінны бачыць адно. Іначай мае быць кара...

Нашыя душы, напалоханыя некалі, прымусілі цела апусьціцца на калені, а тады ўжо забаяліся нешта мяняць. Вось і я адгаворваю сябе. Ня трэба, не рабі. Але хто ж тады?

Галоўнае — не палохацца. Жахлівыя думкі: я ізноў бразнуся на калені. Далоні вільготныя, цела ўспацела ад хваляваньня, ногі дрыжаць. Трэба пачынаць. Абаперціся на левую руку, паволі падцягнуць правае калена ўверх, паставіць нагу. Нічога, здаецца, усё нармальна. Цікаўнасьць зьядае страх. Зараз паставіць другую нагу. Далей выпрастацца. Я ня падаю! Я стаю на нагах! Цяпер уздыхнуць на поўныя грудзі, зрабіць маленькі крок наперад.

Я магу.

Я зрабіў гэта.

Хаця астатнія пакуль засталіся, я змог вырвацца. Я стаў вольным. І гэта ня сон.

Занатоўкі эгаіста

Адам Глёбус

## Традыцыі

***

Жыцьцё кароткае й няўцешнае, і большасьць чалавечых жыцьцяў якраз сыходзіць на традыцыйнае чаканьне лепшага заўтра дый на ўспаміны пра добрае ўчора.

***

Жыцьцё — гэта бясконцае падзеньне хвалі.

***

Ёсьць паняцьце «традыцыйная мараль», але ня ведаю чалавека, якога б зрабілі шчасьлівым паводзіны ў рамках той маралі.

Шчасьце, як і творчасьць, знаходзіцца за межамі «традыцыйнай маралі».

***

Паназірай, як складаюць пляны, прыслухайся да размоваў пра будучыню... Амаль усе малюнкі пэрспэктывы маюць апакаліптычны выгляд. Людзі з захапленьнем гавораць пра жахлівыя наступствы. Галоўнае — не станоўчасьць будучыні, а яе наяўнасьць. Варта жыць, што б ні чакала наперадзе. А калі там хоць крышку меней болю дык і дзякуй Богу.

Жахлівыя сны такія ж традыцыйныя, як і райскія мроі.

***

Сумна ў сваяках бачыць уласныя недахопы, але менавіта гэткі погляд і ёсьць традыцыя.

***

Для чалавека істотная толькі адна дата, каляндарная лічба нараджэньня. Час сьмерці важны іншым людзям, таму традыцыйна на могілкавых помніках дзьве лічбы. Для мяне каштоўны толькі дэфіс, рысачка, працяжнік паміж датамі.

***

Будыст традыцыйна імкнецца прайсьці шлях ад чарвяка, сабакі, чалавека да Буды, а варта паспрабаваць рухацца і ў адваротным накірунку — ад Буды да коткі і казюркі.

***

У клясычнай паэзіі зашмат апяваньняў душы. Якіх толькі станоўчых якасьцяў не прыпісваюць ёй, забываючы, што душа перш-наперш — баязьлівая. Падобнае адбываецца і з мужным розумам, які дарэшты сэнтымэнтальны.

***

Талент — гэта здатнасьць паказваць традыцыйнае як новае, а незвычайнае падаваць як традыцыйнае.

# КАРАБЕЛЬ

ўзьнёслага «кватрачэнта», усе гэтыя рыцары «плашча ды шпагі» тыпу Барбона ды П'етра, Паала Дамінічы з Рыму, Амброзія «Прыхільнага» альбо Калімаха-Буанакорсі, усе гэтыя куртуазныя ман'ерысты.

Рымскія ўплывы ў значнай ступені дапаўняліся ды ўраўнаважваліся ўплывамі бізантыйскімі ды грэцкімі, і рэч тут ня толькі ў тым, што ўкраінская царква належыць да бізантыйскага абраду. Рэч у тым, што існуе агульная бізантыйская мэнтальнасьць, што так моцна перашкаджае нам на нашым шляху да Эўропы, а можа нават, збаўляе нас ад уваходжаньня ў гэтую самую Эўропу. Вось, напрыклад, царква Прачыстай зь вежай Карнякта — гэтых уплываў ня згладзіш, не праігнаруеш.

Нашае падарожжа на Поўдзень на гэтым ня скончыцца, бо я яшчэ не згадаў пра армянаў, якія прыміґравалі да Львова галоўным чынам з Крыму, дзе ваяўнічы іслам пакідаў усё менш прасторы для іхных бажніцаў і крамак. Ад армянаў бяруць пачатак выразныя арыентальныя матывы Львова. Тканыя ў Львове пэрсідзкія дываны лічыліся прыгажэйшымі за арыгінальныя пэрсідзкія вырабы, — і я ўжо не кажу пра водар імберцу, кардамону, шафрану, перцу, мускату, карыцы. Менавіта армяне спрычыніліся да таго, што горад рассмакаваўся ў духмяных прыправах. Аднак жа па сёньняшні дзень ніхто не расшыфраваў эпітафіяў на старых армянскіх могілках, хаця цыркулююць чуткі, што гэта нешта бясконца мудрае і дужа карыснае. Часам скону армянскай супольнасьці ў Львове можна лічыць 1946 год, калі бальшавікі скасавалі армянска-каталіцкае арцыбіскупства (як і грэка-каталіцкае).

Што датычыць жыдоў, то яны зьявіліся ў горадзе яшчэ раней за армянаў, недзе пры канцы XIV ст. І былі сярод іх ня толькі анучнікі, шынкары і ліхвяры, якіх са сьвятым абурэньнем кляйміў у выкшталтаваным лацінскім вершы паэт XVI ст. Севасьцян Рабіян Кланові́ч («Як точыць футра моль, а ржа —жалеза, так жыд-гультай і нішчыць, і руйнуе ўсё»); былі сярод жыдоў і вучоныя талмудысты, і астролягі, і чарнакніжнікі, і таксама знаўцы халдэйскай мудрасьці і таемнай сілы. Менавіта яны сталі ахвярамі фашызму, а тыя, што прыбылі на іхняе месца пазьней, былі ўжо звычайныя, савецкія і дэнацыяналізаваныя. Гэты зьнішчаны тып галіцкага жыда даў сьвету шмат незвычайных асобаў, сярод якіх быў ужо цытаваны раней Юзаф Рот, настальгічны эсэіст Юзаф Вітлін і, бясспрэчна, Бруна Шульц —загадкавы літаратурны плод з вычварна салодкім прысмакам.

Хто яшчэ плыў на гэтым караблі?

Немцы або, як іх тады называлі, «швабы», пакінулі сьлед у выглядзе перакручаных назваў львоўскіх прадмесьцяў. Тое, што мы цяпер ведаем як Лычакаў, паходзіць ад Люцэнгоф, Замарстынаў — ад Зомэрштайн, Кляпараў — ад Клёпэр, Маёраўка — ад Маер, Кульпаркаў — ад Гольдбэрг і г.д... Была яшчэ Юзэфа Кун, мнішка-бэнэдыктынка, аўтарка паэтычнага зборніка «Lembergs schöne Umgebünden», альбо «Прыгожыя ваколіцы Львова».

Хто яшчэ плыў на гэтым караблі, у яго трумах і каютах, на палубе і на мачтах?

Можа, дастаткова простай лічылкі?

Дык вось: сэрбы, далматы, аргаваўты, татары, туркі, арабы, шатляндцы, чэхі, маўры, баскі, скіфы, караімы, хазары, асырыйцы, этрускі, геты, готы, белыя і чорныя харваты, кельты, анты, аланы, гуны, курды (курды!), этыёпы, цыклёпы, агрыпы. Лестрыгоны, андрагены, арыяне, цыганы, кінацэфалы, элефантафагі, афрыканцы, масоны і мэтысы, маларусы і мазахісты. Францішкане, капуцыны, кармэліты босыя і, адпаведна, кармэліты абутыя, бэрнардыны, клярыскі, уршулянкі, сакрамэнткі, цэцыльянкі. Дамінікане, базыльяне, растафарыяне, рэдэмптарысты, пасьля езуіты, а раней трынітарыі, якія займаліся выкупам нявольнікаў-хрысьціянаў з усходняй няволі. Разэнкрэйцары, студыты, тампліеры, стараверы і нававеры.

Упэўнены, усім ім пашчасьціла тут пагасьцяваць. Але ж лічылка гэтая досыць адвольная.

Бо Львоў месьціцца пасярод сьвету. Таго Старога Сьвету, які быў плоскі і спачываў на кітах ці чарапасе: самым адданеным закуткам яго былі Індыі, аб берагі якіх разьбіваліся хвалі Нілу, а можа, гэта быў і акіян.

Нават львоўская флёра захавала бясспрэчныя знакі «ўсяізму». Балтыйская хвоя і крымскі кіпарыс любасна суседзяць у садках, кожны зь якіх заслугоўвае званьня батанічнага.

Мы, людзі — неразважлівыя і няўдзячныя стварэньні. Наш вырок — вечна нешта губляць. Мы ніколі ня цэнім таго, што маем, што падаравана нам з вышыняў.

У адной з улюбёных маіх кніжак, у «Гістарычных прагулянках па Львове» Івана Крып'якевіча, ёсьць змрочны разьдзел «Неіснуючыя сьвятыні». Часам я думаю: а што, калі б кніжка выйшла не ў 1931 годзе, а цяпер — наколькі даўжэйшым і наколькі гнятлівейшым быў бы гэты разьдзел? Мне ў Львове бракуе сынагогі «Залатая Ружа». Мне бракуе татарскай мячэці і магільніку недзе ля Высокага Замку, што існавалі ад самага XVII ст. Гэтыя памяткі паказвалі падарожнікам. Мне бракуе шмат чаго яшчэ, між іншым, штогадовых львоўскіх карнавалаў і нядзельных гасьцінаў для жабракоў, і напаўфантастычнага зьвярынца ў ваколіцах Пагулянкі.

Той-сёй з нас імкнецца выратаваць гэтыя дзівосы хаця б вершаваным радком, але зазвычай ім і так удаецца выжыць. Бо Львоў — гэта карабель-здань.

Ідылічнае і безбалеснае наслаеньне культураў — гэта міт. І я зусім ня ўпэўнены, што гэта бясшкодны міт. Зрэшты, давермася клясыку — вось што ён пісаў пра такое наслаеньне:

«Калі кагосьці ў нашым горадзе мучыць бяссоньніца, ён можа ўслухоўвацца ў начныя галасы. Выразна і цяжка выбіваюць час званы каталіцкай катэдры: другая раніцы. Праходзіць трошкі больш за хвіліну... і тут слабей, але пранікнёна адгукаецца звон праваслаўнай царквы, абвяшчаючы аб сваёй другой гадзіне. Пасьля кароткай паўзы мы чуем ахрыплы, далёкі гадзіньнік на мячэці, але гэты адбівае толькі адзінаццатую, нейкую таямнічую турэцкую гадзіну, падпарадкаваную далёкаму, чужынскаму, дзівацкаму вымярэньню часу. У жыдоў курантаў на вежы няма, і аднаму Богу вядома, якую гадзіну б'юць іхнія гадзіньнікі, адны паводле сэфардыйскага, а другія — ашкеназійскага часу».

Гэта быў Іва Андрыч, а начны горад, пра які ён піша, — гэта Сараева. Больш я пра яго ня згадваю.

Наслаеньне культураў — гэта ня толькі сьвет сьцёртых межаў, гэта таксама кроў, бруд, этнічныя чысткі, разьня, вынішчэньне. Магчыма, я абмовіўся, магчыма, я мусіў сказаць «наслаеньне антыкультураў». Яно таксама непазьбежнае ў шматэтнічным асяродзьдзі.

Калі ў сярэдзіне XVIII стагодзьдзя на Сьвятаюраўскай гары ў Львове збудавалі барочны сабор Сьв. Юра, ён стаў архітэктурнай дамінантай гораду, бачнай адусюль. Гэта, ясная штука, грала на нэрвах многіх рыма-каталікоў, бо ж катэдра Сьв. Юра — гэта бажніца хрысьціянаў усходняга абраду. Рэванш быў узяты праз два стагодзьдзі, калі на прывакзальнай плошчы ў львоўскае неба тыцнулася высокая вежа нэагатычнага касьцёла Сьв. Альжбеты, закрыўшы сабор Сьв. Юра з боку чыгуначнага вакзалу. Ад таго часу гасьцей Львова пазбавілі панарамы Сьвятаюраўскай гары. Вось адзін з прыкладаў наслаеньня, пра якое я казаў. Чаго ў ім болей: пабожнай палымянасьці, гордасьці, творчага суперніцтва, інстынкту ўласьніка?.. Я ня ведаю адказу, хаця ў іншым я пэўны: без псэўдагатыцкай, кічаватай Сьв. Альжбеты сёньняшні Львоў ужо немагчыма сабе ўявіць.

Палякі перамаглі ўкраінцаў у Львове ў вулічных баях перадусім таму, што гэта быў іхны горад, прычым ня ў нейкім там абстрактна-гістарычным сэнсе, а менавіта ў самым канкрэтным асабістым вымярэньні: гэта былі іхныя брамы, двары, завулкі; яны ведалі іх на памяць ужо таму, што якраз тут яны прызначалі першыя спатканьні сваім каханкам. Украінцы пераважнай большасьцю былі прыхаднямі зь вёсак, ім цяжка было дзейнічаць у абсалютна чужых для сябе ўмовах, і падтрымлівала іх хіба што думка пра «старакняскую пышнасьць нашага Львова». Але калі пасьля перамогі (я ўжываю гэтае слова з найбольшай асьцярожнасьцю, на якую здольны) польская адміністрацыя распачала проста істэрычныя рэпрэсіі супраць безабаронных, праводзіла масавыя арышты і пагромы, яна павяла сябе, як чужынец, як прыхадзень, заваёўнік чужога гораду, як цёмны барбар, глухі да сапраўднае львоўскае паліфоніі. Гора пераможцам — вось няўмольны вынік любой перамогі.

Аднак мы заглыбляемся ў сфэры, вельмі далёкія ад культуры.

Як бачыце, я не датрымаўся абяцаньня казаць пра тое, што злучае. Можа, аднак, удалы канец выратуе сытуацыю?

Тэзіс пра непадзельнасьць культуры не заўсёды гучыць пераканаўча. Культура поўначы і поўдня, культура ўсходу і захаду (заўважце, што ёсьць яшчэ паўночны ўсход і паўднёвы захад і наадварот, і ў кожным зь іх хаваецца яшчэ шмат іншых адценьняў) — гэта ўсё недастаткова акрэсьленыя і незлучальныя паняткі. І толькі з добрай волі Таго, Хто Раздае Геаграфію, часам удаецца нешта злучыць, да таго ж на незвычайна сьмешным грунце: напрыклад, на грунце водаразьдзелу двух марскіх басэйнаў. Але дзякуючы менавіта гэтаму, тут, цяпер, пры канцы стагодзьдзя і тысячагодзьдзя, мы маем цудоўную магчымасьць быць пасажырамі аднаго з караблёў, які плыве, як нам здаецца, у знаёмым кірунку. Магчыма, гэта нават каўчэг, на які нас, як у старым эклектычным Львове, сабралі, каб выратаваць «усяго патроху». Можа, гэта папросту п'яны карабель. Можа, гэта карабель дурняў. А можа, як у Рота, горад сьцёртых межаў, Трыест на хвалях, вандроўны Львіў, Львуф, Лембэрг, Леопаліс, Сынгапур...

*Пераклаў з украінскай*

**Андрэй Дынько**



